ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

19 ВЕРАСНЯ 2003 г. № 38/4224









# „Мінск — жыцця майго крыніца"

*— пад такой назвай 13 верасня ў нашай сталіцы прайшло свята — Дзень горада.*

Стар. **5**

Гарадская ратуша

# КОЛА ДЗЁН

**Прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка 15 верасня наведаў з рабочым візітам Сочы, дзе сустрэўся з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Уладзімірам Пуціным. У час перамоў гаварылася аб праблемах далейшага будаўніцтва Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.**

## КЛОПАТ ТЫДНЯ

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка сваім распараджэннем зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб выдзяленні сродкаў, якія будуць накіраваны на выплату ганарараў мастакам, арганізацыю стажыровак маладых тэатральных дзеячаў, стварэнне новых экспазіцый рэспубліканскіх і рэгіянальных музеяў. Так, на рэстаўрацыю і набыццё экспанатаў для стварэння экспазіцыі Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры Беларусі выдзяляецца грант у памеры 14 мільёнаў рублёў, Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму музею-запаведніку "Нясвіж" — каля 15,5 мільёна рублёў, Рэспубліканскаму тэатру беларускай драматургіі — 15 мільёнаў рублёў. Прынятае распараджэнне з'яўляецца яшчэ адным прыкладам рэальнай дзяржаўнай падтрымкі ў галіне развіцця нацыянальнай культуры.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Паводле папярэдняй інфармацыі, за студзень-жнівень гэтага года ў рэспубліканскі бюджэт паступіла даходаў на агульную суму 3,8 трыльёна рублёў, што дазволіла выканаць план дзевяці месяцаў на 86,3 працэнта і склала 61,4 працэнта ад гадавога плана.

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

Былы міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны прызначаны на пасаду генеральнага дырэктара рэспубліканскага аб'яднання "Белсаюздрук".

## НАВЕДВАЛЬНІК ТЫДНЯ

Выстаўку 60 твораў вядомых мастакоў XVIII — пач. XX стст. "Шэдэўры Траццякоўскай галерэі", якая з поспехам праходзіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, 12 верасня наведаў 100-тысячны наведвальнік. Ім аказалася актрыса Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага рускага тэатра імя М. Горкага Шах-Парон Алімпіяда Іванаўна, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь. Дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў уручыў юбілейнаму наведвальніку адпаведны сертыфікат і каталог выстаўкі, што праходзіць у музеі.

Такой актыўнасці беларускага гледача, асабліва ў першыя і апошнія месяцы выстаўкі, ніхто не чакаў. Паводле слоў дырэктара У. Пракапцова, 100-тысячны наведвальнік планаваўся ў канцы верасня.

У сувязі з вялікім попытам выстаўкі сярод жыхароў нашай рэспублікі, па ўзгадненні з кіраўніцтвам Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі выстаўка будзе падоўжана да 1 кастрычніка.

2 кастрычніка плануецца ўрачыстае закрыццё выстаўкі і прэзентацыя вернутага да жыцця рэстаўратарамі Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі А. І. Галубейка і К. Г. Волкавай твора А. І. Куінджы "Бярозавы гай" з калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.

3 кастрычніка сваё законнае месца, у зале пастаяннай экспазіцыі, зойме карціна А. І. Куінджы "Бярозавы гай".

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ




На доме № 15 па вуліцы Кульман у Мінску, дзе апошнія гады жыў народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесар Яўген Глебаў, устаноўлена мемарыяльная дошка ў гонар гэтага выдатнага кампазітара. Цырымонія яе адкрыцця з удзелам кіраўніцтва Міністэрства культуры РБ і прадстаўнікоў Мінскага гарвыканкама адбылася 10 верасня, у дзень народзінаў Я. Глебава, якому споўнілася б 74 гады.

**ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА**

## НЕ ЗАБУДЗЬЦЕСЯ ПАДПІСАЦЦА!

Шаноўныя чытачы! 23 верасня заканчваецца падпіска на "ЛіМ" на чацвёрты квартал 2003 года. Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц — 2500 рублёў, на квартал — 7500 рублёў. Індывідуальны індэкс — 63856. Кошт ведамаснай падпіскі на 1 месяц — 4000 рублёў, на квартал — 12000 рублёў. Ведамасны індэкс — 63857.



# МАЯ ІДЭАЛОГІЯ — У МАЁЙ ДУШЫ

Усё лета гэтага года я правёў на сваім садовым участку пад Мінскам у раёне паўстанка Зялёнае. Бальшыня часу прайшла ў рабоце над новай кнігай паэзіі "Любоў без ростані", у якую ўвайшлі вершы, балады, паэмы, напісаныя за апошнія тры-чатыры гады. Хацелася быць далей ад палітыкі, перажываючы толькі за няўдачы нашага беларускага футбола і за надвор'е, якое не спрыяла вырасціць добры ўраджай на палетках. Але хіба можна зусім у баку стаяць ад таго, што робіцца на свеце, не хвалявацца за свой край, свой народ, які перажывае такі бурны і нялёгкі час. Былі і ёсць радасныя дні, часіны ў жыцці нашай краіны, роднай Беларусі, якая больш за дзесяць год вырашае пытанні свайго быцця і працы самастойна, пад сцягам свайго суверэнітэту.

І вось нарэшце новая радасць: зусім нядаўна, 13 жніўня, адбылася нарада ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі па пытанні аб сістэме і тэхналогіі ідэалагічнай работы ў нашай краіне ў сучасных умовах. Гаворачы іншымі словамі — гэта імкненне ўрада і вышэйшага кіраўніцтва краіны выпрацаваць новыя метады і формы ідэалагічнай работы, вызначыць яе курс і стварыць такую ідэалогію дзяржавы, якая б адпавядала поўнасцю запатрабаванням часу, імкненням, думкам і марам усіх працоўных краіны, усяму нашаму народу.

Паведамленні пра гэту нараду, выказванні яе ўдзельнікаў і выступленне самога Прэзідэнта выклікалі ва ўсіх нас не толькі цікаўнасць, але і жаданне самім браць удзел у такой адказнай справе. Прызнацца, у мяне асабіста з'явілася нейкае здзіўленне — чаму на гэту нараду не былі запрошаны вядомыя ўсім нам дзеячы нашай культуры, літаратуры і мастацтва — пісьменнікі, артысты, мастакі, скульптары, кампазітары, якія б сказалі сваё слова, падзяліліся б сваім вопытам, набытым за шмат гадоў сваёй творчай працы, расказалі б дзяржаўным чыноўнікам, якую ідэалагічную працу праводзяць яны сярод людзей, як уздзейнічаюць на іх душы і сэрцы сваімі творамі.

Маглі б, несумненна, штосьці падказаць і нашы народныя пісьменнікі Іван Шамякін, Іван Навуменка, артысты Марыя Захарэвіч, Генадзь Аўсяннікаў, кампазітар Ігар Лучанок, мастак Міхаіл Савіцкі і іншыя.

У кожнага, хто прысутнічаў і адсутнічаў на гэтай нарадзе, ёсць, безумоўна, свае думкі, меркаванні па вельмі важных пытаннях, якія хвалююць нас усіх, усю нашу краіну, а ў Нацыянальнай акадэміі навук, у дзяржаўных універсітэтах, розных установах культуры ёсць і тэарэтыкі, даследчыкі па пытаннях ідэалогіі, прапаганды здабыткаў нашай айчыннай гісторыі і культуры. І вельмі прыемна, што праз некалькі дзён пасля нарады ў размову ўключыліся нашы пісьменнікі. У нумары паважанага штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" за 29-га жніўня выступілі са сваімі думкамі, меркаваннямі аб ідэалагічнай рабоце ў краіне пісьменнікі Таіса Бондар, Міхась Пазнякоў, Раіса Баравікова, Эдуард Скобелеў, Мікола Мятліцкі, Уладзімір Саламаха. А ў цэнтральнай рэспубліканскай газеце "Звязда" — 2-га верасня карэспандэнт Таццяна Падаляк змясціла цікавую размову з прафесарам паліталогіі Сяргеем Рашэтнікавым аб выкладанні ў ВНУ краіны, пачынаючы з гэтага года, новай дысцыпліны "Асновы ідэалогіі беларускай дзяржавы". Трэба спадзявацца, што ў абмеркаванні многіх набалелых праблем стану сучаснай ідэалогіі і яе далейшага ўдасканалення выступяць па магчымасці іншыя дзеячы навукі, культуры, літаратуры і мастацтва, сярод якіх нямала вядомых тэарэтыкаў, даследчыкаў у гэтай сферы дзейнасці грамадства.

Я не тэарэтык, не крытык, не збіраюся выкладваць перад усімі свае філасофскія ці якія там іншыя погляды. Я проста былы салдат сваёй Айчыны, воін-паэт, магу і хачу вярнуцца ў не такія далёкія часы і расказаць аб тым, як нам — абаронцам Радзімы, усяму нашаму пакаленню дапамагалі літаратура і мастацтва, узнімалі наш баявы дух у барацьбе супраць знешніх ворагаў, бо ва ўсе часы, як вядома, ва ўсе эпохі, пачынаючы ад старажытных гадоў да нашых дзён, мастацкія творы былі, ёсць і будуць самымі лепшымі, надзейнымі памочнікамі-агітатарамі, празорцамі прапагандыстамі і выказнікамі чалавечых дум, пачуццяў, перажыванняў, духоўнага прагрэсу ў развіцці нашага грамадства.

Гэта, напрыклад, раўназначна таму, як у канцы верасня 1943 года на нашым фронце на пачатку вызвалення Беларусі ад гітлераўцаў з'явіўся верш Пімена Панчанкі "Байцу, які першы ступіў на беларускую зямлю". Якраз у гэты дзень мы пачалі фарсіраваць Днепр у раёне Лоева. І ўсе воіны пайшлі на пераправу, кожны імкнуўся — і беларус, і рускі, і ўкраінец — першым ступіць на зямлю Беларусі са словамі гэтага верша на вуснах і ў сваім сэрцы.

Але мне перш за ўсё хочацца расказаць аб сустрэчы з чалавекам, выдатным майстрам мастацтва, які ў айчыннай ідэалогіі зрабіў не менш, а, можа, больш чым якінебудзь дзяржаўны дзеяч альбо вучоны, філосаф. Гэта быў народны мастак СССР, выдатны рускі скульптар, член Акадэміі мастацтваў СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі Сяргей Канёнкаў. Сустрэча з ім была наладжана для курсантаў Вышэйшых літаратурных курсаў у Маскве вясной 1956 года. Сярод іх былі прадстаўнікі ўсіх братніх літаратур вялікай тады адзінай краіны — рускія пісьменнікі Васіль Субоцін, Вадзім Ачарэцін, Афанасій Сальнскі, Мікалай Дарызо, украінец Мікола Гірнык, азербайджанец Габіль Імамвірдзіеў, армянін Эванес Шыраз, літовец Уладас Мазурунас, беларус Іван Грамовіч, паэтэсы Святлана Сомава, Ірына Валабуева і аўтар гэтых радкоў. Прывяла нас у дом Канёнкава, што размяшчаўся на рагу Цвярскога бульвара і цэнтральнай вуліцы Максіма Горкага побач з Літаратурным інстытутам, сама дырэктар курсаў, прафесар Тамара Трыфанава. Мы, безумоўна, рыхтаваліся да гэтай сустрэчы, абдумвалі, якія задаваць пытанні вялікаму майстру. Але задаваць пытанняў амаль не давялося. Сяргей Цімафеевіч запрасіў нас у вялікі пакой на другім паверсе дома і сам пачаў гутарку. Нечакана для ўсіх прагучалі першыя словы, якія ён сказаў, а гэта было ў хуткім часе пасля 20-га з'езда КПСС, у дні так званай "хрушчоўскай адлігі":

— Я не ведаю, — сказаў ён, — як там у вас называецца — сацыялістычны рэалізм ці рэалістычны сацыялізм, я не разбіраюся ў гэтых тэрмінах, я перш за ўсё мастак, раблю і кажу тое, што бачу сваімі вачамі, што перажыў сам і адчуваю сваёй душой. Мая ідэалогія ў маёй душы, у маім сэрцы. І ўсё сказана ў маіх работах, якія вы паглядзіце, ці можа, хто з вас ужо іх бачыў...

Далей ён гаварыў пра тое, што такое шчасце, як ён яго разумее: яно ж не толькі ў дабрабыце чалавека, у яго багацці матэрыяльным, а перш за ўсё — у актыўнай творчай дзейнасці на карысць сваёй радзімы, свайго народа. Шчырыя, простыя словы скульптара магла пацвердзіць і яго маладая, надзвычай прыгожая, з яснымі блакітнымі вачыма, доўгімі, як ільняны кужаль, валасамі жонка, якая сядзела побач на пафарбаваным у барвовы колер крэсле, зробленым з дрэва рукамі самога мужа.


Пятро ПРЫХОДЗЬКА і Максім ТАНК.

Неўзабаве вялікі майстар, пачаставаўшы нас кавай, павёў у сваю майстэрню, што займала ўвесь ніжні паверх вялікага двухпавярховага дома. Усе мы без выключэння былі проста з першых позіркаў зачараваныя работамі майстра, яго скульптурамі, адлітымі з бронзы, зробленымі з дрэва, з каменю, з гіпсу. Нельга было адарваць вачэй ад партрэтаў Ф. Дастаеўскага, Ф. Шаляпіна, М. Мусаргскага, ад першай працы маладога Канёнкава, якая называецца "Каменабоец". Тут жа стаялі "Аўтапартрэт", за які скульптар быў узнагароджаны тады Ленінскай прэміяй, бюсты і фігуры ва ўвесь рост Пушкіна, Ясеніна, Маякоўскага. У кожным чалавеку свяціўся яго яркі, непаўторны вобраз. І гэта ўсё было зроблена рукамі былога селяніна, родам са Смаленшчыны, з вёскі, якая калісьці ўваходзіла ў адну дзяржаву — Вялікае Княства Літоўскае. Мы перакінуліся словамі з Іванам Грамовічам: "Дык гэта ж наш зямляк". Хацелася сказаць усім прысутным. Але ж справа не ў тым, хто і адкуль, дзе нарадзіўся, з якога роду пайшоў. Усе мы з незвычайным захапленнем глядзелі на работы вялікага майстра і ў кожнага была адна думка ў галаве: "Вось так трэба тварыць, сеяць светлае, мудрае, вечнае, так любіць сваю зямлю, свой народ, каб па-майстэрску перадаць яго мары і думы, выказаць пачуцці чалавечай дружбы і любові. І не трэба дзесьці, кагосьці агітаваць, гаварыць пра ідэю, выказаную май-

страм у яго творчых задумах і ажыццяўленнях". А сам майстар стаяў перад намі з прыгожым тварам, шырокай доўгай сівой барадой, як у Льва Талстога, у белай саматканай кашулі. Яснымі светлымі вачамі і шчырым, бацькоўскім позіркам ён абдымаў нас, жадаючы ўсім поспехаў у працы, творчага плёну.

Прайшло многа год. А і зараз помніцца, як на сваіх літаратурных курсах, на занятках і творчых семінарах, абмяркоўваючы свае вершы, апавяданні, мы нярэдка ставілі ў прыклад работы скульптара Сяргея Канёнкава — лепшага агітатара і прапагандыста духоўнага свету чалавека, не належачага ні да якой партыі, толькі маючага свае думкі, свой талент, свае погляды на ўсё навакольнае жыццё. У душы гэтага чалавека не было ніякай іншай ідэалогіі, апроч высокага прызвання ісці да людзей і ўпрыгожваць іх неабдымны свет.

Вось такое ж уздзеянне на сэрцы і душы салдат аказвалі літаратура і мастацтва ў самы цяжкі час для ўсяго нашага народа — у дні Вялікай Айчыннай вайны, якую, на вялікі жаль, некаторыя адрачэнцы ўжо не лічаць Вялікай Айчыннай, а называюць проста другой сусветнай. І тут дазволь, мой дарагі чытач, выказацца мне не як пабочнаму назіральніку, а як непасрэднаму ўдзельніку тых усіх падзей, якія перажыло пакаленне былых франтавікоў, ушто ўсё бачыла і адчула сваімі сэрцамі.

Магчыма, камусьці пакажацца дзіўным, што я ўспамінаю пра тое, што было больш за паўвека таму назад. Але ж былі часіны, мінуты, нават імгненні ў баявым жыцці, якія засталіся ў памяці на ўсё жыццё і ты, дзякуй Богу, дажыўшы да сівізны, можаш расказаць маладым людзям, які сам быў малады і як на цябе ў цемры раскідвалі з неба зоркі сваё зататое праменне.

Прайшоўшы ўсю вайну ад пачатку да канца, удзельнічаючы непасрэдна ў многіх баях, я быў увесь час у баявым страі, на пасадзе, якую прыдумаў не сам — палітрука роты, якая забяспечвала разведку ў часці, падтрымлівала сувязь на перадавой лініі. У маёй роце было шэсцьдзесят чатыры чалавекі радавых байцоў, некалькі сяржантаў і камандзіраў малодшага складу, меўшых сярэднюю вайсковую адукацыю. Мы ўсе ведалі адзін аднаго, як брат ведае брата. Многія сталі сапраўднымі героямі, аддалі свае жыцці за Радзіму, за перамогу над ворагам: старшы сяржант Віктар Аляксандравіч Давыдаў, лейтэнант Аляксандр Пятровіч Карніенка і іншыя. Я помню ўсіх паімённа і зараз. Светлая памяць усім маім баявым сябрам. Некаторыя з іх жывуць яшчэ і сёння, яны могуць пацвердзіць усё, пра што я кажу ў гэтым артыкуле.

Дык вось пра тую ідэалогію, якая ў нас была на франтах вайны, дакладней, як літаратура і мастацтва дапамагалі нам ваяваць, біць ворага, фашысцкіх агрэсараў. Рэшткі тых не да канца дабітых агрэсараў пускаюць свае карані і зараз — то ў Чачні, то ў Афгане, то ў Іране, падымаюць галовы ва ўсім свеце. А мы іх білі не толькі з аўтаматаў і гармат, але і трапным мастацкім словам, ёмкім паэтычным вобразам, накшталт: "Медаль за бой, медаль за труд из одного метала льют". Ды пра медалі потым, перш за ўсё — пра франтавую паэзію.

Ваюючы на Бранскім фронце ў сорак другім годзе, затым на Цэнтральным, на Першым Беларускім, перад кожнай баявой аперацыяй мне даводзілася часта рабіць палітінфармацыі. Але на гэтых палітінфармацыях я не чытаў раздзелы з кароткага курса гісторыі камуністычнай партыі альбо параграфы з баявога статута. Для ўздыму духу байцоў я амаль кожны раз зачытваў ім толькі што надрукаваныя ў франтавой газеце строфы з паэмы Аляксандра Твардоўскага "Васіль Цёркін". Салдаты запаміналі кожнае слова, якое перадавалася з сэрца ў сэрца, пераходзіла з вуснаў у вусны:

"Пушки к бою едут ходом, это сказано давно. Города сдают солдаты, генералы их берут. Я не гордый, что мне орден, Я согласен на медаль". І г.д., і г.д. Салдаты паэму пра Васю Цёркіна завучылі на памяць. І як жа яна дапамагала ім развейваць смутак, тугу, пісаць лісты сваім родным, блізкім, прызнавацца ў каханні любімым дзяўчатам. Ды што гаварыць. Тут лішніх слоў не трэба.

А вось яшчэ пра нашу родную беларускую паэзію, якая даходзіла да самых перадавых пазіцый і з суседніх франтоў і з глыбокага тылу.

Аднойчы зімой 1943 года перад пачаткам баёў за вызваленне горада Калінкавічы (наша дывізія была названа затым Калінкавіцкай) у штаб палітаддзела прыйшоў з Масквы па палявой пошце рускамоўны часопіс "Знамя". У ім была змешчана паэма Аркадзя Куляшова "Сцяг брыгады" ў перакладзе на рускую мову Міхаіла Ісакоўскага. Начальнік палітаддзела падпалкоўнік Панарын даў мне гэты адзіны экземпляр часопіса і, ведаючы, што я люблю паэзію, сам пішу, наказаў, каб я гэту паэму прачытаў воінам ва ўсіх палках і батальёнах дывізіі. Я так і рабіў, працуючы ўжо ў рэдакцыі дывізіёнкі. Хадзіў па ўсёй тэрыторыі, занятай дывізіяй у першым эшалоне, і чытаў байцам (помню, затым у арыгінале):

*Як ад роднай галінкі*
*Дубовы лісток адарваны,*
*Родны Мінск я пакінуў,*
*Нямецкай бамбёжкаю гнаны...*
*і г.д.*

Сярод воінаў многа было беларусаў. Як жа яны дзякавалі свайму дарагому паэту-земляку, які вявяў на суседнім фронце і пасылаў ім такое вітанне, напамін аб роднай зямлі, якую трэба вызваляць ад фашысцкай нечысці... Кожны прыгадваў свой дом, сваю вёску ці горад, тут жа пачынаў пісаць лісты дамоў альбо складаць свае вершы...

А з якой увагай, цікаўнасцю чыталі воіны ў франтавых, армейскіх газетах вершы саміх паэтаў-франтавікоў Сямёна Гудзенкі, Міхаіла Луконіна, Аляксандра Межырава, нашых беларускіх паэтаў, якія ваявалі на розных франтах і ў партызанскіх атрадах — Анатоля Астрэйкі, Антона Бялевіча, Кастуся Кірэенкі, Паўлюка Пранузы, Аляксея Пысіна. Напрыклад, верш Міколы Сурначова пра байца ў стаптаным жыцці першым атрымаў да баявога сябра артылерыст Паўлюк Прануза і чытаў яго да з'яўлення ў свет сябрам яшчэ пры жыцці аўтара-паэта, які загінуў пад Берлінам, не дажыўшы некалькіх дзён да перамогі. А з партызанскага тылу праз беларускую прэсу даходзілі да франтоў "Слуцкі пояс" Анатоля Астрэйкі, выдадзены партызанамі ў падпольнай друкарні пад Слуцкам, паэма Антона Бялевіча "Свет Маланні", напісаная ў партызанскім атрадзе, куды ён быў перапраўлены за лінію фронту. А якім поспехам у войску карысталася "Балада пра уральскі танк" Анатоля Вялюгіна, вершы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, прысвечаныя воінам беларускіх франтоў. Трэба было бачыць там, каб усё гэта адчуць і перажыць самому. І як жа мне асабіста было радасна пачуць, што спяваюць салдаты песню пра генерала, напісаную кампазітарам Людвікоўскім, які служыў у нашай дывізіі, на тэкст з майго верша, перакладзены на рускую мову:

*Соловьи-соловушки,*
*Поют нам до зари.*
*Соловьи-соловушки*
*Поют тому, кто смел.*
*Только жаль, что рано,*
*Только жаль, что рано,*
*Генерал наш поседел...*

Вядома, імя генерала не ўказвалася. Але ўсе ведалі, што гэта гаворыцца ў песні пра камандзіра дывізіі генерал-маёра Барынава Аляксандра Барысавіча. Калі ўжо я загавstatic пра песню, то трэба з асаблівай павагай і ўдзячнасцю пакланіцца тым кампазітарам і паэтам, якія ў час вайны складалі франтавыя песні, якія сталі шэдэўрамі савецкага песеннага мастацтва, хоць і былі створаны, як гаворыцца, на хаду: гэта неўміручыя мелодыі песень "Цёмная ноч", "Салаўі", "Вася-Васілёк", "Синий платочек" і многія іншыя. Яны даходзілі да нас разам з брыгадамі савецкіх артыстаў, якія прыязджалі так часта на ўсе франты і выступалі перад баямі ў баявых падраздзяленнях. Ці трэба гаварыць, які ўплыў яны рабілі на салдата, каб разам з баявой паэзіяй у сэрцы і зброяй у руках пайсці ў атаку.

Мастацкая літаратура на франтах вайны не абмяжоўвалася толькі паэзіяй і лірычнымі песнямі. На працягу ўсіх баявых дзеянняў воіны ў перапынках паміж баямі чыталі раздзел за раздзелам з рамана Міхаіла Шолахава "Яны змагаліся за Радзіму", публіцыстычныя артыкулы Ільі Эрэнбурга, "Школу нянавісці" Аляксея Талстога, баявыя артыкулы і вершы Канстанціна Сіманава, які прайшоў разам з салдатамі праз усю вайну і праз якога спачывае цяпер пад Магілёвам на Буйніцкім полі.

Пра ўсё не расказаць, усяго не перадаць. Напрыканцы вайны былі напісаны першыя апавяданні Іванам Шамякіным, Аляксеем Кулакоўскім, Янкам Брылём, Іванам Мележам. А колькі не вярнулася нашых беларускіх пісьменнікаў з баявых дарог. Імёны іх залацяцца сёння на дошках памяці, а творы чытаюцца мільёнамі людзей — і старых і маладых. Яны навек упісаны ў фонды нашай айчыннай культуры, жывуць як палымяныя агітатары, прапагандысты ў нашай сённяшняй ідэалагічнай рабоце.

Што ж датычыць сённяшняга стану нашай літаратуры, твораў, якія сёння з'яўляюцца на старонках друку, то аб іх павінны сказаць свае словы нашы крытыкі. Іх выказванні, іх ацэнкі ў ідэалагічнай рабоце павінны мець асаблівую вагу.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**




*НА ЗДЫМКУ: Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Мікалай АЛЯКСЕЕЎ, Міхась КАЛАЧЫНСКІ.*

# ГІСТАРЫЧНЫ ВЫБАР БЕЛАРУСІ

Выйшла з друку кніга вядомага палітыка і дзяржаўнага дзеяча, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі "Исторический выбор Беларуси". Выданне падрыхтавана Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Акадэміяй кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Кніга ўяўляе сабой зборнік лекцый, якія кіраўнік нашай дзяржавы прачытаў у вышэйшых навучальных установах Мінска. Апрача лекцый Прэзідэнта ў зборнік асобным раздзелам уключаны таксама і адказы А. Р. Лукашэнкі на шматлікія пытанні студэнтаў і выкладчыкаў чатырох буйнейшых ВНУ Беларусі. І гэта істотна ўзбагаціла выданне, бо, сапраўды, адкрытасць кіраўніка дзяржавы ў спалучэнні са шчырасцю студэнтаў робіць больш значным і дзейсным такі строгі жанр, як гутаркі кіраўніка дзяржавы з будучай элітай краіны. Няма сумнення, што кніга будзе вельмі карыснай у справе далучэння юнакоў і дзяўчат да актыўнага ўдзелу ў вырашэнні важных дзяржаўных задач.

З'яўленне такога выдання — з'ява сама па сабе выдатная, да таго ж — гэта і яскравае пацверджанне пастаяннай і сур'ёзнай увагі з боку дзяржавы да нашай моладзі, яе праблем, адукацыі і выхавання ў духу грамадзянскасці, патрыятызму, адказнасці за будучыню Радзімы.

"Мне падалася карыснай і прадуктыўнай думка, — піша ў аўтарскім уступе да кнігі Аляксандр Рыгоравіч, — спалучыць падрыхтоўку нашага студэнцтва, іх веды і растучы вопыт з тым разуменнем жыцця і нацыянальных інтарэсаў, якое характэрна кіраўніцтву Рэспублікі Беларусь.

Задума ў нейкай ступені ажыццёўлена ў гэтых чатырох лекцыях."

Прадмову да кнігі "Исторический выбор Беларуси" напісаў віцэ-прэзідэнт Расійскай акадэміі навук, замежны член НАН Беларусі, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў. Даючы высокую ацэнку кнізе, выдатны вучоны зазначае: "На жаль, у палітычным і эканамічным жыцці амаль усіх краін СНД былі поўнасцю забыты маральнасць і гуманізм. І, практычна, толькі Беларусь абрала гуманны шлях грамадскага развіцця, узяўшы курс на фарміраванне сапраўды сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі... Палітычны і эканамічны курс, прапанаваны Кіраўніком беларускай дзяржавы, пацвердзіў сваю слушнасць. Па індэксу развіцця чалавечага патэнцыялу Беларусь выйшла на 53-е месца ў свеце, нашмат апярэдзіўшы ўсе краіны СНД".

Безумоўна, гэтая кніга будзе вельмі карыснай для навучэнцаў, студэнтаў, выкладчыкаў, навукоўцаў, спецыялістаў, для кожнага, хто цікавіцца станаўленнем сучаснай беларускай дзяржавы.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ДАРОГАМІ ВАЙНЫ

У рамках сумеснай калегіі міністэрстваў культуры Беларусі і Расіі, якая адбылася на днях у Мінску, абмяркоўваўся план мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да святкавання 60-годдзя вызвалення абедзвюх краін ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Плануецца ажыццявіць 20 сумесных акцый, у якіх будуць удзельнічаць тысячы людзей.

Падчас прэс-канферэнцыі міністр культуры Расіі Міхаіл Швыдкой перш-наперш адзначыў, што сумесная падрыхтоўка да святкавання гістарычна абумоўлена – народы абедзвюх краін разам абаранялі незалежнасць агульнай у той час краіны СССР, ды і міністэрствы на працягу многіх гадоў цесна супрацоўнічаюць паміж сабой, арганізоўваючы розныя мерапрыемствы, у тым ліку тэатральныя гастролі і музейныя выстаўкі.

Першыя захады па распрацоўцы праектаў, прысвечаных ваеннай тэматыцы, у Расіі распачаліся загадзя, яшчэ ў 2001 годзе, каб паспець падрыхтаваць шэраг кінематаграфічных і выдавецкіх праектаў да знамянальнай даты.

У Беларусі ўсе фестывальныя мерапрыемствы пад агульнай назвай "Шляхам Перамогі" стартуюць не ў сталіцы, а ў Хоцімску – першым раённым горадзе, які быў вызвалены ад захопнікаў. Як адзначыў міністр культуры Беларусі Леанід Гуляка, апрача свят рэспубліканскага маштабу, у кожнай вобласці будуць праводзіцца свае мерапрыемствы. Гэта будзе рабіцца з той мэтай, каб дайсці да кожнага ветэрана, кожнага ўдзельніка Вялікай Айчыннай, подзвіг якіх застаецца ў нашых сэрцах на доўгія гады.

**В. ПАТАПЕНКА**

**НАДЗЁННАЕ**

# ПАЭТЫ ВЫРАСТАЮЦЬ У ВЁСЦЫ...



Недзе напрыканцы 60-х гадоў у мяне, школьніка, з'явілася вялікая, у чорна-белых ілюстрацыях, кніга "Шаги по росе" Васіля Пяскова. Ужо ў той час імя гэтае было шырока вядома: яго матэрыялы не толькі аб прыродзе, і людзях у ёй, а наогул аб жыцці, тагачаснай рэчаіснасці літаральна ўсіх рэспублік былой вялікай краіны друкаваліся ў "Комсомольской правде".

Чытаў у газеце, а тут раптам — кніга! І купленая не ў сталіцы, ці бліжэйшых да майго пасёлка Бабруйску, Магілёве — гарадах, а менавіта ў пасёлку, а калі ўжо так, звычайнай вёсцы. Хіба што рабочай — Скачкоўскі лесапункт Кіраўскага лесаўчастка Бабруйскага леспрамгаса.

Дык вось, рускамоўную "цаглiну" "Шаги по росе" я выбраў разам з некалькімі маленькімі зборнічкамі нашых маладых паэтаў і празаікаў (на роднай мове, вядома) — кнігі прадаваліся ў звычайным магазіне: хлеб, цукар, селядцы, вопратка... Як і хто заказваў сюды літаратуру — не ведаю. Але падазраю, што ні лаўрэат Ленінскай прэміі Васіль Пяскоў, ні пачаткоўцы і проста маладыя нашы паэты і празаікі Мікола Маляўка, Міхась Стральцоў, Анатоль Кудравец, для таго, каб іх "Едуць маразы", "Сена на асфальце", "На зялёнай дарозе", не абівалі парогі розных устаноў, не кланяліся "хозяевам", арганізацыям, каб іх творы дайшлі і да вёскі майго маленства. Між іншым, кнігі, што стаялі ў нашай краме каштавалі столькі, што некаторыя з іх можна было бедаку купіць за здадзеную (знойдзеную ля крамы) пустую бутэльку.

Былі кнігі, пераважная большасць беларускія, і ў лесаўчасткавай бібліятэцы. Пазней я даведаўся: штогод туды паступала амаль 200, а калі і больш "пазіцый" — літаральна ўсё, што выдавалася дзяржавай. Цікава, на нядаўняй сустрэчы з настаўнікамі Мінска аб тым, што некалі ў вясковай краме побач з бочкай селядцоў былі кнігі (не эстэтычна? Зато даступна) успамінаў і Мікола Мятліцкі. А ён жа маладзей за мяне, і вёска яго — у зусім іншым кутку Беларусі. Значыць, кніга была паўсюль. Падкрэсліваю: перш за ўсё на роднай мове...

Паэты вырастаюць у вёсцы. Гэта я вычытаў у Пяскова. Ён прыгадваў, як настаўнік на ўроках літаратуры любіў паўтараць, што паэты вырастаюць (чытай таксама, нараджаюцца) у вёсцы. Настаўнік называў імёны. І дзеці здзіўляліся: так...

І я, падлетак, як падлеткі з нарыса В. Пяскова, найперш успрыняў гэта, як літаральнае. І як жа вёска, але ўжо наша, беларуская, узвышалася ў маім усведамленні, калі чытаў біяграфічныя звесткі пра аўтараў маленькіх і вялікіх кніг прозы і паэзіі, купленых у пасялковай краме — дык яны ж — з вёскі...

Мне скажуць: адстаў, "прошлое". "Сейчас много поэтов — выходцы из города". І будуць мець рацыю. І празаікаў — таксама. "Пишут же тексты..."

Але вось загадка: чаму, напрыклад, менавіта вёска нараджае тытанаў нацыянальнага духу? Янка Купала, Якуб Колас... А Іван Мележ, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Іван Пташнікаў, Барыс Сачанка, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў?..

Па сутнасці, калі ўжо так, то сапраўды — не менш 90 працэнтаў нашых пісьменнікаў — нарадзіліся ў вёсцы. Кажуць, адабралі б у іх з дзяцінства роднае слова, той асяродак, у якім фарміраваўся светапогляд — не было б у нас літаратуры. Той, што сёння маем: годнай сярод іншых літаратур свету. Нягледзячы ні на што. А "што" — дык таксама ведаем...

Пакуль мы шумелі, спрачаліся, ды лаяліся, высвятляючы, хто з нас павінен заняць месца літгенералаў, розныя самадзейныя "настаўнікі паэтаў", і "прочая" і "прочая" калялітаратурная публіка, змагла адвесці ад літаратуры многіх з іх. Наіўныя, яны шчыра паверылі "нікаму" ў літаратуры, хто раптам вырашыў хоць чым у ёй, або каля яе ўзвысіцца, ствараць такім чынам сваё нібы літаратурнае "я", якое, як кажуць, і праз мікраскоп разгледзець цяжка.

Мы ўсе ведаем такіх "настаўнікаў паэтаў" (выраз з загалоўка з адной дзяржаўнай газеты), якая "пропагандировала" такога "наставніка" і такую "школу". Літаральна перад тым, як я меўся пісаць гэты матэрыял, адзін такі настаўнік прыйшоў да нас у рэдакцыю з патрабаваннем хутчэй надрукаваць яго артыкул. Супрацоўнік на амаль ваяўнічае патрабаванне адказаў юнаку, што "твор" яго абсалютна непісьменны, што над ім трэба працаваць, ды працаваць...

"Настаўнік" пайшоў "высокомерный" і "великий". Аказалася, пайшоў у гімназію, вучыць як пісаць творы зусім юных — у гімназіі той ён "кіруе" літаб'яднаннем!

І як тут зноў не ўспомніць былыя, не такія ўжо і далёкія, часы нашага літаратурнага жыцця, калі таленавітыя і проста здольныя вясковыя хлопцы і дзяўчаты (здараліся, і гарадскія, але зрэдку) ішлі са сваімі вершамі і апавяданнямі, напрыклад, у "Маладосць", дзе цудоўны паэт Мікалай Якаўлевіч Аўрамчык і цудоўны празаік Уладзімір Максімавіч Дамашэвіч з імі працавалі. Гэта былі (і ёсць) не толькі адметныя творцы, але і асобы, што не менш важна. І першы і другі за многія гады працы з творчай моладдзю ўвялі ў літаратуру дзесяткі, калі не сотні паэтаў і празаікаў, і калі сёння думаеш пра гэта, то можна смела сцвярджаць, што іх школы застануцца ў гісторыі нашай літаратуры.

Але вельмі шкада, што школы гэтыя цалкам разрушаны, пра іх мы зрэдку ўспамінаем у друку, не больш, і што сёння, здаецца, ніхто са слынных літаратараў (акрамя Алеся Герасімавіча Масарэнкі, аб ім гаворка асобная) літзменай не займаецца. І добра, што гэты "прабел" спрабуе запоўніць "ЛіМ" сваім штотыднёвым "літкварталам" (і аб гэтым не вельмі пахвалішся — свая ж газета).

І ўсё ж, у школах нашых, найчасцей вясковых, нягледзячы на скарачэнне ўрокаў па літаратурах і мовах (толькі што праехаў па 3-х раёнах, наведаў некаторыя школы і школкі), засталіся, ёсць настаўнікі літаратур і моў гэтых, якія па-ранейшаму, вучаць дзяцей так каб яны добра ведалі літаратуру і ўсё, што, з ёй звязана, што з яе вынікае. І, мабыць, і сёння, як заўсёды было ў нас у якой-небудзь далёкай вёсачцы ёсць настаўнік, накшталт таго, які быў у Васіля Пяскова...

Можа, няёмка напамінаць сабе і некаторым калегам (можа, і права ў мяне такога няма), але ж, прыклады жыцця і творчасці многіх і многіх нашых выдатных пісьменнікаў мінулага і сённяшняга, падказваюць: у літаратуры трэба любіць літаратуру, а не сябе. А крытыка, якая заклікана пра яе гаварыць, робіць вельмі кепска, калі становіцца занадта паслужлівай і пачынае "абслугоўваць" у асноўным тых пісьменнікаў, якія маюць уплывовыя літпасады і дзякуючы гэтаму шмат выдаюцца, хоць творы іх, можа, не заўсёды маюць належны мастацкі ўзровень (а колькі тым часам выдатных твораў ляжаць у пісьмовых сталах радавых пісьменнікаў!). І разам з тым, як ведаем, у нас дастаткова прыкладаў, калі і выдатныя майстры слова, і проста пісьменнікі, і маладыя і "забранзавелыя" крытыкі грэбавалі і грэбуюць быць служкамі ў "самопровозглашенных" літгенералаў, высока нясуць сваю пісьменніцкую і чалавечую годнасць. Яны заўсёды сумленна служылі і служаць, літаратуры як бы хто іх ні спрабаваў зганьбіць, служаць свайму народу, сваёй Айчыне, разумеючы, што менавіта такая іх місія. "Абслугоўванне", прыстасаванасць — страшэнна разбураюць літаратуру. Гэта таксама ўсе ведаем, але чамусьці пра гэта або саромеемся, або баімся гаварыць услых. Таму застаецца толькі канстатаваць: такое ёсць. Бачаць і разумеюць гэта і маладыя. Адны з іх вельмі проста і лёгка ідуць у "абслугу", і такім чынам маюць хоць і часовую для сябе, але выгаду. Другія паглядаюць на ўсё падобнае грэбліва. Трэція наогул адыходзяць ад творчасці. Сярод апошніх — ёсць сапраўдныя, ад Божай ласкі, паэты.

Вядома, ужо даўно паэты (тут і ва ўсім матэрыяле прашу такімі лічыць усіх пісьменнікаў) нараджаліся і нараджаюцца, выраслі і вырастаюць не толькі ў вёсцы. Калі браць сваіх нацыянальных, то нават нараджаюцца яны, здараецца далёка ад зямлі бацькоў. На чужых землях. І нават у такіх умовах, калі пра паэзію, прыгажосць наогул гаварыць прыходзіцца. Старэйшыя нашы таварышы, мае калегі-равеснікі, ды крыху маладзейшыя літаратары гэта добра ведаюць. Найперш яшчэ з тых школьных праграм па беларускай літаратуры, па якіх усе мы вучыліся некалі і ў вясковых і ў гарадскіх школах. А таксама, з таго ж "ЛіМа", з тых жа "Маладосці", "Полымя", "Немана", з "Чырвонай змены", якія некалі былі ў многіх школьных бібліятэках як у горадзе, так і ў вёсцы.

Ведалі, што Максім Багдановіч нарадзіўся ў Мінску. Рос колькі часу ў Гродне. Потым жыў і вучыўся далёка ад радзімы, ад яе моўнага і іншага нацыянальнага асяроддзя — у Ніжнім Ноўгарадзе. Ведалі, што тым не менш — гэта адзін з сімвалаў Айчыны, геній.І шмат чаго іншага пра яго ведалі наогул...

Ведалі таксама, што, напрыклад, Пімен Панчанка нарадзіўся ў год рэвалюцыі ў Таліне, куды яго "бацькі — бедныя сяляне, у пошуках заробку выехалі", і што да 3-х гадоў будучы народны паэт Беларусі гадаваўся і рос у зусім чужым і далёкім, не падобным на наш, духоўным свеце. І ведалі, што на радзіме па сутнасці і фарміравалася і сталела яго, Пімена Емяльянавіча, асоба Паэта і Чалавека, які прайшоў разам са сваім народам усімі яго нялёгкімі дарогамі.

Мы таксама ведалі, што, скажам, наш вялікі майстар роднага слова Янка Брыль, нарадзіўся ў год рэвалюцыі і таксама далёка ад Беларусі, у Адэсе. І таксама малым, (але ўжо ў 5 гадоў) разам з бацькамі пераехаў на іх радзіму у вёску Загора, што ў Карэліцкім раёне, дзе рос і гадаваўся, "скончыў польскую пяцігодку". Але ж беларускім словам, як творца, узвысіў Айчыну, яе народ.

Ужо з іншых крыніц, з беларускіх часопісаў і газет, напрыклад, асабіста я даведаўся, што, скажам, цудоўны беларускі паэт Уладзімір Лісіцын нарадзіўся вясной 1944 года ў фашысцкім канцлагеры Флігегорт. А таксама, што над ім, як вязні па нараджэнні віселі дзве зоркі. Адна, дык такая: паэт Айчыны. Другая — пакутнік... Першае яркае праўдзівае слова пра яго да нас данёс шмат гадоў таму выдатны паэт Рыгор Барадулін. Потым пра Лісіцына мы, чыталі ў невялікай біяграфічнай даведцы "Беларускія пісьменнікі", выдадзенай тады яшчэ беднай (1944 г.) краінай у "Мастацкай літаратуры" тыражом ажно ў 22000 экземпляраў, і якая праз год ужо стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Але, спецыяльна для сённяшняй літаратурнай моладзі, якая даведніка гэтага не мае, працытую колькі вех з жыцця Уладзіміра Лісіцына. "Паходзіў з сялянскай сям'і. У вайну маці і старэйшы брат вывезены ў канцлагер. Пасля вызвалення сям'я вярнулася ў вёску Пагосішча Лёзненскага раёна". А далей — шахцёр у Данбасе, педвучылішча на Украіне, вяртанне на Лёзненшчыну, дзе настаўнічаў, працаваў у райгазеце, затым — зноў Украіна... Памёр 12.7.1973 г. Пры жыцці так і не займеў уласнай кнігі: першая з іх "Жураўлінае вясло" выйшла ў 1974 годзе, другая, "Беларусь — мая калыска" — у 1990...

І калі ўжо так, і па законах "жанру" (хаця, хто сёння іх прытрымліваецца?) пасля трох прыкладаў (а тут ужо чатыры, а варта было б даць калі не ўсе пяцьсот, то хаця б каля сотні) трэба заканчваць пералік і рабіць нейкі свой вывад. Але ж, так і карціць сказаць і яшчэ аб адным, што звязана з гэтым, "паэты вырастаюць у вёсцы". (Ужо не толькі нараджаліся і не толькі выраслі і вырастаюць нашы пісьменнікі ў той жа вёсцы, на радзіме, але нямала хто з іх жыў, працаваў, сёння жыве і працуе далёка ад Айчыны, часам нават на "другім канцы свету". (У кожнага свой лёс, і тут нічога дзіўнага няма. Дзіўна іншае, калі чалавек сам выбірае сабе дзе жыць і тварыць, а нам іншы раз хочацца за гэтым бачыць палітыку: ага, з'ехаў,пакрыўдзіў...

Скажам, Алесь Каждадуб жыве і працуе ў Маскве. Валера Ліпневіч — таксама, Анатоль Кірвель — у Санкт-Пецярбургу...

Дык хто сёння пра гэта ведае? У школе, інстытуце, нават у іншай рэдакцыі? Хто ведае, што ўсе яны там нясуць годна, калі так можна сказаць сваю пісьменніцкую службу?.

Беларускія дзяржаўныя, падкрэслю, дзяржаўныя літаратурныя выданні выпісваюцца рэдка ў якія школы, бібліятэкі, установы. І часта там, скажам у вёсцы, дзе "вырастаюць паэты", юны чытач з божым дарам паэта замест газеты або часопіса на мове свайго народа, мове бацькоў, дзядоў бачыць іншыя выданні, выпісаныя "работнікамі культуры" за дзяржаўныя грошы (а яны на нашы выданні, аказваецца "выдзяляюцца"). Тыя выданні найчасцей накіраваны на знішчэнне духоўнасці наогул, "растление" юнага чалавека. Яны загадзя рыхтуюць з юнага грамадзяніна бяздумнага "поглотителя" ўсялякай пошасці, якой, між іншым, ніколі не было і сёння няма ў беларускай літаратуры. (Можа, і таму яна "не в чести" ў такіх "культработников"?).

Не даведаюцца ўжо таксама нашы юныя грамадзяне са сваіх школьных падручнікаў па беларускай і рускай літаратурах і мовах, або даведаюцца, але і "в усеченном объеме" пра тое, што я тут сказаў, адносна класікаў. І шмат пра што іншае з культурнага і духоўнага жыцця свайго народа, Айчыны. Як ужо нямала хто з пісьменнікаў пісаў, напрыклад, у "ЛіМе", ды і я таксама, многіх у грамадстве па-добраму непакоіць "урезание" гадзін па названых прадметах у школе. Людзі сыходзяцца ў асноўным на адным: памылка, якую трэба выправіць. Хаця, не, ды і з'яўляюцца іншыя (няхай і адзінкавыя) заявы: наўмысна, каб паступова "размыць" дух народаў.... (Усе разумеюць, што ідэалогіі без літаратуры не бывае). А калі ўжо так, дык без сапраўднай духоўнасці, носьбітам якой найперш з'яўляецца літаратура, наогул не можа быць чалавека: ні спартсмена, ні міністра, ні камбайнёра, ні ўрача...

Вось тут я зноў вярнуся да Васіля Пяскова. Што паэты нараджаюцца ў вёсцы настаўнік літаратуры казаў сваім вучням, у пасляваенны час. Галодным, напаўраздзетым, басаногім ад снегу да снегу, (многія з якіх так і не дачакаліся бацькоў з фронту), знясіленым цяжкой мужчынскай працай, якая тады ляжала на іх плячах. Казаў па сутнасці бяспраўным юным грамадзянам краіны, мабыць, з такой мэтай: вырастайце сапраўднымі людзьмі. Настаўнік, называў імёны, і гэта пацвярджала яго словы. Ён ведаў, што, можа, ніхто з яго вучняў не стане паэтам (паэтамі нараджаюцца). Але ён ведаў, што без літаратуры, сапраўдных людзі не вырастаюць. Ні ў вёсцы, ні ў горадзе...

А яшчэ ён хацеў, гэты настаўнік, каб у дзяцей было пачуццё гонару за свой народ, сваю мову, сваю Айчыну, сваю вёску, свой род...

Упэўнены, шмат у якім сэрцы словы таго настаўніка прараслі дабрынёй. І як хочацца, каб у нашай вясковай і гарадской школе такія настаўнікі (а іх хапае паўсюль), прыйшоўшы на ўрок па беларускай і рускай літаратурах, гледзячы ў твары сваім вучням маглі смела, не баючыся, што заўтра гэтага ўрока ўжо не будзе, сказаць прыкладна так: "Дзеці, паэты вырастаюць у вёсцы, і ў горадзе. На Радзіме і на чужыне... Наогул, яны вырастаюць там, дзе вырастаюць: дар такі або ёсць, або яго няма. І няважна, што, можа, паэтам з вас ніхто і не стане. Важна, каб усе вы выраслі добрымі, адукаванымі людзьмі, карыснымі Айчыне. Кожны ў той справе, якую выбера... Чытайце літаратуру і вучыце мову". Яны гэтаму вучацца.

І апошняе: канечне, да гэтага матэрыялу "просіцца" іншы загаловак. Не будзем мяняць. Няхай...

**Уладзімір САЛАМАХА**

**Фота В. МАЙСЮКА**





# «МІНСК — ЖЫЦЦЯ МАЙГО КРЫНІЦА...»

13 верасня жыхары нашай сталіцы святкавалі 936-годдзе Мінска — Дзень горада. Урачыстасці пачаліся каля абеліска "Мінск — горад-герой", да якога былі ўскладзены кветкі. Тут жа мэр сталіцы Міхаіл Паўлаў уручыў узнагароды мінчанам, якім нададзены ганаровыя званні "Мінчанін года". Затым свята перайшло на гарадскія плошчы і праспекты.

На свяце, якое праходзіла пад назвай "Мінск — жыцця майго крыніца!" можна было пабыць у Сярэднявечным горадзе з рыцарамі, чароўнымі дамамі, рамеснікамі і менестрэлямі. Каля Палаца спорту прайшло свята моды, на якім паказваліся адзенне, прычоскі і макіяж ад беларускіх майстроў. На пляцоўцы перад Дзяржаўным музычным тэатрам пад адкрытым небам прайшоў — упершыню ў гісторыі святкавання Дзён горада — канцэрт зорак беларускай аперэты. Для самых маленькіх мінчан побач з гасцініцай "Планета" быў разгорнуты дзіцячы гарадок з творчымі калектывамі, конкурсамі і гульнямі. Словам, кожны мог знайсці для сваёй душы ўцехі і адпачынак.

Свята завяршылася феерверкам каля абеліска "Мінск — горад-герой".

Н.К.

ФОТА М. ЗАМУЛЕВІЧА









**ВІНШУЕМ!**



**20 верасня споўніцца 60 гадоў лаўрэату Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Ніне Мацяш. Пачаўшы друкавацца ў 1962 годзе, яна выдала такія кнігі паэзіі, як "Агонь", "Удзячнасць", "Раллья суровая", "Прыручэнне вясны", "Поўны келіх", "Жнівень", "Шчаслівай долю назаві" і іншыя. Сур'ёзна працуючы ў галіне перакладу, Ніна Мацяш перастварыла па-беларуску творы французскіх і нямецкіх пісьменнікаў: А. дэ Сент-Экзюпеਰы, Ж. Сіменона і інш. Яна аўтар твораў для дзяцей, пастаўленых на сцэнах тэатраў.**

**Віншуючы Ніну Іосіфаўну з юбілеем, зычым ёй здароўя, творчага неспакою і плёну.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## ЗАЛАТАЯ СЕНАЖАЦЬ

**У мяне ўсё, як звычайна.**
**Скардзіцца няма на што.**
**Бо інакай папросту не можа быць.**

**Ніна МАЦЯШ**

***Не шкадую сёння,***
***сёння не шкадую***
***тую, маладую сенажаць:***
***бачу — дзе — як толькі***
***памяць узгадую,***
***веснавыя сны мае ляжаць.***
***Не шкадую сёння:***
***сёння яшчэ рана***
***шкадаваць у прозалаці дня***
***золь таго папара,***
***боль таго дзірвана,***
***дзе асірацела цішыня.***
***Не шкадую сёння,***
***хоць і будзе позна***
***заўтра паўтараць імя гадоў,***
***дзе маё каханне***
***прабягала ў росах.***
***Сцежкі тыя цалаваць гатоў...***
***Ах, сястрыца Ніна,***
***пераможца зморы!***
***Зберажэ анёл і слых, і зрок:***
***дні Твае — даніна***
***гордай непакоры.***
***Тым, хто любіць, скарга —***
***як папрок.***
***У натхнёнай стоме***
***не гатовы словы***
***пра няўтульны побыт разважаць...***
***Хай жа не сівеюць нашыя галовы, —***
***залатую помняць сенажаць!***

**АНОНС**

## «ТВОЙ САМЫ КАРОТКІ ШЛЯХ — ДА МЯНЕ...»

**Менавіта гэты вершаваны радок даў назву творчаму вечару паэтэсы Таццяны МУШЫНСКАЙ. Вечар-канцэрт адбудзецца 3 кастрычніка ў Зале камернай музыкі Белдзяржфілармоніі. Прагучаць вершы, а таксама камерныя вакальныя і харавыя творы сучасных беларускіх кампазітараў, напісаныя на тэксты паэтэсы апошнім часам.**

**Сярод удзельнікаў вечара кампазітары А.Атрашкевіч, М.Марозава, А.Безенсон, В.Кажухар, спевакі Н.Руднева, М.Філіпава, С.Старадзетка, інструменталісты Г.Цароў (кларнет), К.Успенскі (гітара), піяністкі В.Семяновіч і Т.Дуброўская. А таксама — вядомыя харавыя калектывы: "Гармонія" з Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага (музычны кіраўнік — Л. Камінская), "Cantus Juventae" з Мінскага лінгвістычнага універсітэта (мастацкі кіраўнік — Г. Цмыг) і Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь (мастацкі кіраўнік — Н.Міхайлава).**

**Падчас канцэрта пройдзе прэзентацыя першага аўтарскага CD Т.Мушынскай "Огонь в ночи", які толькі-толькі выпусціла выдавецкая фірма "Ковчег". На дыску — рамансы, напісаныя М.Марозавай на тэксты паэтэсы. Іх выконвае салістка Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі Н.Руднева.**

**Вядучая вечарыны — дыктар Беларускага тэлебачання А. Ястраб.**

**КРЫТЫКА**

# ВАДА З КРЫНІЦЫ МАЛЕНСТВА

Ганад Чарказян падарыў мне сваю новую кнігу "Тоска по дому", якая нядаўна пабачыла свет дзякуючы ГА "Беллітфонд". Знайшліся добрыя людзі ( Г. Чарказян за дапамогу ў яе выданні выказвае падзяку Рыгору Будніцкаму і карпарацыі "Арктур"), якія добра разумеюць, што ў наш час без духоўнага апірышча цяжка абысціся, а літаратура з'яўляецца тым сродкам, які прымушае людскія сэрцы быць цяплейшымі. Безумоўна, калі гэта сапраўдная літаратура. Тое, што піша Г. Чарказян, падпадае пад гэтае вызначэнне, бо заўсёды пазначана высокай мастацкасцю.

Не проста прачытаўшы, а перачытаўшы гэтую кнігу, прынамсі, асаблівую ўвагу звярнуўшы на тыя творы, што больш за ўсё ўсхвалявалі, на сваё здзіўленне ўпэўніўся, як слаба яшчэ ведаю творчасць гэтага выдатнага пісьменніка.

Не сумняваюся, што пры жаданні ён мог бы пісаць і па-руску ("Тоска по дому" перакладзена Валерыем Ліпневічам), і па-беларуску, бо абедзве гэтыя мовы добра ведае, як і неаднойчы ў сваіх вершаваных творах прызнаваўся ў любові да двух братніх народаў — рускага і беларускага, асабліва падкрэсліваючы, што менавіта беларуская зямля стала яму роднай:

*Отыскал я в лесной стороне*
*Мечту и орлиные крылья.*
*Земля белорусская мне*
*"Новой землею" открылась.*

Але ён проста не можа не пісаць па-курдску, бо ягоная творчасць жывіцца сокамі зямлі, што дала яму жыццё, бо напоўнена творчасць гэтая трывогай, роздумам, болем народа, да якога ён належыць.

Пісаць для Г. Чарказяна па-курдску — тое ж самае, што і беларусу выказвацца на сваёй роднай мове. Аднак Г. Чарказян мае на гэта нават большае правы, бо яго народ раскіданы па ўсім свеце і, на жаль, не можа згуртавацца і аб'яднацца. Але жывуць курды і будуць жыць, пакуль у іхнім асяродку нараджаюцца такія слаўныя сыны, якія, узваліўшы на свае плечы цяжар народных бед і клопатаў, дзякуючы свайму жыватворнаму таленту нагадваюць: ёсць на зямлі курды, ёсць і ніколі не знікнуць, бо ў іх душах такая вялікая прага выжывання і існавання, якая што заўгодна пераадолее. А каб іх пачулі, мала прамаўляць на роднай мове, трэба знайсці яшчэ і такія мовы, якія б дазволілі пашырыць аўдыторыю паразумення, а тым самым і аб курдах нагадалі.

Сваю чарговую сыноўнюю споведзь Г. Чарказян назваў шчыра і прачула — "Тоска по дому". А сабраў ён пад адной вокладкай творы розных жанраў: апавяданні, лаканічныя і па-філасофску насычаныя чатырохрадкоўі — чаргаві, лірыку, што само па сабе ўжо сведчыць аб унікальнасці кнігі. Але асаблівую адметнасць ёй, зразумела, надае не толькі гэта, а сам змест, у якім усходняя мудрасць працягу аўтара дзіўным чынам павязана з сучаснасцю, а традыцыі паяднаны з тым новым, што прыносіць жыццё. У выніку адбываецца размова пра час і чалавека, які сваім лёсам павязаны з ім. А яшчэ пра чалавека, які насуперак гэтаму лёсу не падае на калені, а горда ўзнімае галаву нават тады, калі іншыя гатовы зламацца. І ўжо не "тоска по дому" выходзіць на першы план, хоць падтэкстава яна гучыць ад першай да апошняй старонкі кнігі, а гонар за родны ДОМ. За КУРДСКІ ДОМ, з якім у думках пісьменнік ніколі не развітваецца, як бы высока ні цаніў ён сардэчнасць беларускай зямлі.

Апавяданні Г. Чарказяна — з ярка выяўленай прытчавасцю. Ды не з той, што вызначаецца ўяўнай глыбакадумнасцю некаторых сучасных аўтараў, якія, становячыся ў позу гэткіх мэтраў, гатовы ўсіх і кожнага павучаць, як жыць, а самі кіруюцца звычайнай дэмагогіяй, хіба што прыхарошанай дыдактычнай крыклівасцю. Яны напоўнены філасофскім роздумам, які ідзе з глыбіні традыцый курдскага народа, што, як і ва ўсіх усходніх жыхароў, абавязкова нясуць у сабе мудрасць, сфарміраваную на працягу не стагоддзяў, а тысячагоддзяў. Мацуецца роздум гэты на тых асноватворных пачатках, якія ёсць і ў іншых народаў.

Характэрная ў гэтым сэнсе назва адной з навел — "Добро. Зло. Зависть". Падобная тэма гучыць і ў іншых празаічных творах, але калі ў гэтым яна падаецца толькі непасрэдна праз аўтарскія развагі, роздум, асэнсаванні і падагульненні, дык шмат у якіх іншых прапускаецца і праз лёсы галоўных герояў, як правіла, па-курдску разважлівых, жыццелюбівых і вялікіх аптымістаў.

Гэта, аднак, не значыць, што пісьменнік абыходзіць увагай тых, хто, калі прыглядзецца ўважліва, не мае права і чалавекам звацца. Узяць хоць бы навелу "Джаган", асноўны персанаж якой — адзін з тых, хто не толькі чалавека за чалавека не лічыць, а і азлоблены на ўсё жывое. Але куды часцей увагу Г. Чарказяна прыцягваюць людзі, якія сваімі паводзінамі, учынкамі, усім жыццём сваім выпраменьва-

**ДЫЯЛОГІ**

***Нядаўна на паліцах кнігарняў з'явіўся зборнік "Сучасная беларуская драматургія. Традыцыі і наватарства", што пабачыў свет у выдавецтве "Сэр-Віт" пры ўдзеле ТАА "Радыёла-плюс". Чым не нагода пагаварыць і пра гэтую канкрэтную кнігу і пра беларускую драматургію? Мае субяседнікі – укладальнік зборніка Пятро Васючэнка і рэдактар і выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, абодва, дарэчы, акрамя іншых сваіх рэгалій, драматургі і аўтары зборніка.***




# ДРАМАТУРГІЯ — ГЭТА ЛІТАРАТУРА

**Людміла Рублеўская:** —Адразу хачу запытацца: Мы кажам пра падзею... А ці былі падобныя выданні на Беларусі? Чым адметнае менавіта гэтае?

**Пятро Васючэнка:** — Гэтая кніга адметная тым, што яна — тоўстая. Як кажуць гурманы літаратуры — апетытная. Яе проста прыемна ўзяць у рукі і паставіць на паліцу. Яшчэ больш заваблівa — прачытаць, а гэта значыць — паставіць унутры сябе чатырнаццаць спектакляў. Чатырнаццаць твораў пад вокладкай рэпрэзентуюць асноўныя пласты і жанры сучаснай драматургіі. На вокладцы — сімпатычныя, пазнавальныя і культавыя аблічы аўтараў, паміж якімі — класікі, мэтры і пачаткоўцы.

**Уладзімір Сіўчыкаў:** — Зразумела, што і раней выходзілі кнігі па драматургіі — п'есы драматургаў-класікаў, рэпертуарныя зборнікі па замове Міністэрства культуры і паводле вынікаў семінараў ды конкурсаў, хрэстаматыйныя выданні ў серыі "Школьная бібліятэка", манаграфічныя даследаванні... Пятро Васючэнка, да прыкладу, з'яўляецца аўтарам чатырох манаграфій па беларускай драматургіі, сярод якіх і даследаванне "Сучасная беларуская драматургія". Таму зусім невыпадкова менавіта ён быў запрошаны складаць аднайменнае, але новае, прынцыпова іншае выданне. Патрэба ў ім была відавочнаю: у постперабудовачны час драматургія публікавалася досыць сціпла, а часопіс драматургіі і сцэнічнага мастацтва "Тэатральная Беларусь" праіснаваў няшмат. Адметнасцю зборніка сталася найперш грунтоўнасць. У томе на 640 старонак можна знайсці не толькі чатырнаццаць твораў чатырнаццаці драматургаў, але і цікавую, чытэльную (бываюць у іншых літаратуразнаўцаў і нечытэльныя) прадмову П.Васючэнкі, біябібліяграфічныя звесткі пра аўтараў, іх фотапартрэты.

**Л.Р:** — Па якім прынцыпе адбіраліся творы?

**У.С:** — Кніга складаецца з чатырох раздзелаў: "Класіка і сучаснасць", "Традыцыя", "Эксперымент", "Дзіцячая драматургія", у якія ўвайшлі разнастайныя паводле тэматыкі творы розных жанраў – гістарычная драма, трагедыя, камедыя, п'еса абсурду, меладрама, псіхалагічная драма, п'еса-казка дый іншыя. Найперш прадстаўлены драматургічныя творы ад 70-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя да нашых дзён, як знакамітых мэтраў – А.Дзялендзіка, А.Дударава, А.Петрашкевіча, так і покуль што малавядомых аўтараў – М.Арахоўскага, А.Карэліна. Уключаны ў зборнік і творы класікаў: "Тутэйшыя" Янкі Купалы, "Маці ўрагану" Уладзіміра Караткевіча, "Зацюканы апостал" Андрэя Макаёнка. Дарэчы, летась у адным з маскоўскіх выдавецтваў выйшаў даведнік "Великие писатели XX века", у падрыхтоўцы якога нам з Пятром Васільевічам пашчасціла браць самы чынны ўдзел. У тым выданні поруч з Бекетам, Брэхтам, Булгакавым, Метэрлінкам і іншымі карыфеямі сусветнай літаратуры вельмі годна пачуваюцца, рэпрэзентуючы нашае прыгожае пісьменства Купала і Караткевіч. Трэцяя беларуская персаналія з таго даведніка – Васіль Быкаў -- зробіць гонар анталагічнаму зборніку "Сучасная беларуская проза. Традыцыі і наватарства", які цяпер рыхтуецца да друку.

**Л.Р:** — Ці тоесныя паняцці драматычны твор і літаратурны твор? Калі не – у чым розніца?

**П. В:** — Лічаць, што драматургічныя тэксты існуюць перадусім не для чытання, а для паказу на сцэне. Адсюль прыкрая традыцыя: выдаваць зборнікі як мага радзей. Добра, што выдавецтва "Беларуская навука" запаўняе гэты прагал выпускамі зборнікаў сучаснай беларускай драматургіі, якіх у адправеднай серыі выйшла ўжо сем. Наклады такіх выданняў невялікія, але яны адпавядаюць колькасці гурманаў, якія спажываюць драматургічныя тэксты. Драматургія – гэта літаратура. Ніколі не стамлюся гэта паўтараць. Калі літаратурны працэс у нас часам ідзе сваёй хадой, а тэатральны сваёй, дык гэта не норма, а сімптом хваробы. Часам у тэатральным працэсе з'яўляюцца тэксты для сцэны. З'яўляюцца, робяць паласку і знікаюць. Як і мае быць. Бо яны зробленыя паводле іманентных законаў, што палягаюць у сферы кан'юнктуры, асабістых кантактаў. У нелітара-

юць дабро. Як "Муса, по кличке Дафчи" з навелы "Беседка".

Шмат пражыў чалавек, нямала ў жыцці пабачыў. Не абыходзіла Мусу і благое, дый цяпер свет не без нягоднікаў, але з-за гэтага Муса не азлобіўся на людзей, якім быў ён — такім і застаўся, а ягоная дабрыня і іншым перадаецца, даючы ў іхніх душах гэткія ж шчодрыя пасевы душэўнай шчодрасці.

І Міро з аднайменнай навелы таксама належыць да той кагорты людзей, якія не пра сябе дбаюць, а часцей пра іншых клапоцяцца. "Вода из родника Миро — лучшее, что я пил в своей жизни. Нет ужо ни Миро, ни его родника, пущенного в трубы, но вкус той воды из большого глиняного кувшина, всегда запотевшего, помнится мне до сих пор. Маленькая жестяная кружка, совсем легкая без воды, студила ладони, зубы ломило, дыхание перехватывало, но одновременно какая-то легкость распространялась по всему телу. Для утоления жажды хватало одной кружечки, в то время как сейчас пьешь и пьешь, а все никак не можешь напиться. Все-таки это была вода нашего детства".

Неардынарныя характары цікавяць Г. Чарказяна не толькі самі па сабе, а ў іхняй паяднанасці з усім светам. І з Сусветам — таксама. Невыпадкова так арганічна ў канву асобных навел уплятаюцца штрыхі з біблейскіх сюжэтаў, а чалавечая мудрасць прачытваецца праз мудрасць таго жывога, што акружае чалавека. Па гэтай прычыне і навела "Горный орел" нясе ў сабе не менш, чым тыя, героямі якіх з'яўляюцца жыццёва дасведчаныя людзі.

Яго манера пісьма наўмысна пазбаўленая залішняй вобразнай ускладнёнасці, бо для Г. Чарказяна больш важны глыбокі філасофскі падтэкст, чым звычайная канстатацыя фактаў.

Калі чытаеш яго празаічныя творы, упэўніваешся: гэта прамаўляе не толькі Чарказян-пісьменнік, а так разважліва, роздумна, засяроджана гаворыць і сам курдскі народ, у якога няпростая гісторыя, але, хочацца верыць, будзе шчаслівая будучыня.

Паэзія Г. Чарказяна — працяг ягонай прозы. У тым сэнсе, што яна гэтаксама важкая сваім духоўным патэнцыялам, багатая на думку.

Чаргаві не маглі не напісацца, бо ў іх знаходзіць выйсце тое, над чым задумваецца многія. Іншая рэч, што яны не могуць гэтак даходліва і дакладна выказацца.

*Я хвастаться, признаться, не привык,*
*Что знаю хорошо родной язык.*
*Когда родной, так как его не знать?*
*Ведь он в крови, как родина,*
*как мать.*

І лірыка Г. Чарказяна не столькі пачуццёвая, колькі жыццёвая, бо ў ёй таксама не бачыш высілкаў, каб падацца арыгінальным, каб любой цаной звярнуць на сябе ўвагу. У ёй толькі тое, што не можа не хвалявацца, бо яно неадноўчы хвалявала аўтара:

*Деревья шумят все тише.*
*Все медленнее текут реки.*
*Все быстрее скатывается*
*за горизонт*
*Бледное солнце.*
*Неторопливый ритуал осени.*
*Извечный порядок.*
*Покой сменяет беспокойство*
*И бурление жизни.*
*Только глупое сердце*
*Из последних сил, с перебоями,*
*Но стучит, волнуется.*
*Вдруг и его настигнет*
*Эта стылая неподвижность.*

Перачытваю "Тоску по дому" і быццам чую голас яе аўтара, улоўліваю кожную ягоную інтанацыю і каторы ўжо раз упэўніваюся, наколькі сюдзёная і чыстая вада з крыніцы маленства, якой не даюць засохнуць людзі, падобныя Г. Чарказяну.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

---

турнай, нетэатральнай і немастацкай сферах. Вядома, драматург больш думае пра тэатр і пра жыццё твора на сцэне, чым паэт або празаік. У гэтым уся розніца паміж драматургам і проста літаратарам. Іншай я не бачу.

**У.С:** — Куды цікавей, на маю думку, разважаць не пра тоеснасць драматычных і літаратурных твораў, а пра тоеснасць літаратурна-драматычных і сцэнічных твораў. Можна з захапленнем прачытаць, скажам, драматычную паэму і, разам з тым, пры самай разняволенай фантазіі, не ўявіць яе пастаноўкі на сцэне. Агульнавядомая і такая з'ява, як драматургія празаікаў. Пра пэўныя рэчы рэжысёры кажуць, што яны несцэнічныя, непастановачныя. І наадварот - зацятыя тэатралы змогуць назваць не адзін прыклад, калі досыць слабая ў драматургічных адносінах рэч воляй і талентам пастаноўшчыка і акцёраў станавілася хітом сезона.

**Л.Р:** — Ці засталася незапоўненай нейкая ніша айчыннай драматургіі, калі арыентавацца на сучасны сусветны кантэкст? П'есы якога кшталту вы не знайшлі ў беларускіх аўтараў, каб уключыць у зборнік?

**П.В:** — Справа творцаў – не запаўняць прагалы ў нацыянальным літаратурным працэсе, а тварыць. Прагалы неяк самі сабой запоўняцца. Няўдзячны занятак – шукаць беларускіх Шоу або Стрындбергаў. Нацыянальная літаратура не павінна перапрацоўваць ў панаптыкум сусветных персаналіяў. Галоўнае для драматурга – трымаць сусветны ўзровень. І вось гэтага ўзроўня найчасцей не хапае. Асабліва ў маладых, у тых, якія ўжо і ад мовы роднай адмовіліся, дзеля таго, каб шпарчэй трапіць да універсум. А там, ва універсуме, у іх спытаюць: а што вы нам прынеслі свайго? І тут выявіцца, што ні свайго няма, ні ўзроўню. Бо свае і ўзровень – яны непадзельныя.

**Л.Р:** — Ці прапанавала беларуская драматургія вобраз нацыянальнага героя, нацыянальны міф?

**П.В:** — Нацыянальныя тыпажы варта пашукаць у драме Купалы "Раскіданае гняздо", у "Паўлінцы", у "Тутэйшых". Там вы знойдзеце постаці Настаўніка, Змагара, Тутэйшага. Але гэтыя тыпы раскіданыя па ўсім абшары беларускага краснага слова. Драматургія здатная перадаць трагедыю Беларускага Дому, які ператвараецца ў руіны, у прахадны калідор. Драматургія здатная і стварыць утопію – рэстаўрацыю Беларускага Дому, у выглядзе ўтульнага замка, палаца або хаты. Інтэр'ер – тое, што мы недаацэньваем у нашай драматургічнай і тэатральнай традыцыі. Нацыянальная ідэалогія сёння – усё, што працуе на адраджэнне Беларускага Дома, ідэя якога была закладзена яшчэ Францішкам Скарынам у прадмове да кнігі "Юдзіф".

**Л.Р:** — На якога чытача разлічана кніжка?

**П.В:** — Гэтыя чытачы –-не абавязкова рэжысёры або "пралетарыі сцэны" (уявіце, каб у Беларусі тварылі васемсот, да прыкладу, рэжысёраў!). Ёсць аматары чытання п'ес, для якіх лепшы спектакль – той, які яны самі для сябе паставяць ва ўласным уяўленні. Акрамя таго, драматургія – гэта літаратура, а літаратура ў школе ёсць падмуркам адукацыі. Выдаўцы пэўныя, што "Паўлінка", "Тутэйшыя" або "Зацюканы апостал" будуць чытацца школьнікамі, прынамсі, да таго часу, пакуль свет не перавернецца або не будзе запланаваная новая рэформа адукацыі, якая знішчыць нарэшце ўсё і назаўжды.

**У.С:** — Сацыялагічныя даследаванні сведчаць – да сямідзесяці адсоткаў тэатральнай аўдыторыі складае моладзь да трыццаці гадоў, а асноўнай часткай аўдыторыі драмтэатраў ёсць навучэнцы – студэнты і школьнікі. Таму дзіцячая драматургія займае ў зборніку адметнае месца. Кніга адрасуецца школьнікам, навучэнцам, абітурыентам, а таксама настаўнікам, выкладчыкам, бо некаторыя творы ўваходзяць у школьныя і універсітэцкія праграмы. Прыдасца яна спецыялістам-філолагам, бібліятэкарам, усім, хто цікавіцца пытаннямі літаратуры, тэатра і культуры. Хочацца верыць, што знойдуць яе на паліцах бібліятэк і кнігарняў не толькі чытачы, але і карыстальнікі. Гэтае слова здаецца мне больш прыдатным для азначэння спажыўцоў выданняў кшталту слоўнікаў, даведнікаў, дапаможнікаў, энцыклапедый. Іх не чытаюць, імі карыстаюцца. Спадзяюся, што і ў гэтага выдання будуць не толькі чытачы, але і зацікаўленыя карыстальнікі, а найперш – рэжысёры, загадчыкі літдрамчастак, іншыя тэатральныя дзеячы, якія паспрыяюць таму, каб апублікаваныя творы займелі новыя, сцэнічныя увасабленні.

**Гутарыла**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.**

---

**УРАЖАННЕ**

# АД ВЕРСІІ ДА ПРАЎДЫ

**"...по кажном чтении нового**
**нечто научишися..."**
**Францішак СКАРЫНА**




Калі я чытаю творы пра жыццё і дзейнасць выдатных дачок і сыноў Айчыны, асабліва далёкага мінулага, то заўсёды думаю: "Якую ж трэба мець мужнасць, сілу духу, моц і энергію, каб вынаходзіць тое, чаго яшчэ не было, адкрываць людзям невядомыя даляглядзы жыцця, каб адстойваць свае ідэі і памкненні ў тым асяроддзі, дзе яны не прымаюцца ўладарамі і лічацца шкоднымі...

Францішак Скарына — якраз з такіх людзей. Для мяне ён заўсёды быў своеасаблівым сімвалам, легендарным "помнікам" з далёкага мінулага нашага народа. Першадрукар, асветнік, гуманіст — словы, якімі звычайна характарызуецца Скарына ў школьных падручніках. Гэта, безумоўна, так. Але як хочацца паглядзець на гістарычную асобу пад іншым "вуглом", з пункту гледжання яго агульначалавечых вартасцей. Хочацца даведацца аб нечым новым, загадкавым і таямнічым са скарынаўскага жыцця.

Калі, шаноўны чытач, мае з вашымі жаданні супалі, то не задумваючыся бярыце кнігу Уладзіміра Казберука "Францішак Скарына", якая нядаўна выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Кніга з'яўляецца навукова-папулярным нарысам, таму часам чытаць яе не так-та і проста: вялікая колькасць дакументальных фактаў, цытат, імёнаў даследчыкаў, складаныя фразы. Хацелася б за ўсё гэта крыху паўшчуваць аўтара, бо ўсё ж такі гэты нарыс пісаўся для нас, вучняў, якіх, канечне, яшчэ больш зацікавіў бы твор, калі б ён быў напісаны прасцей і даходлівей. Паколькі я сама вучаніца, то ведаю, як стамляюць некаторыя падручнікі, перанасычаныя датамі, спецыяльнымі тэрмінамі і цытатамі. Але калі ж кніга трапіла вам у рукі, то раю сесці і тым не менш удумліва прачытаць яе. Нарыс сапраўды ўтрымлівае ў сабе шмат новых, раней невядомых звестак пра Скарыну. Многія з іх, мабыць, можна было б назваць "сенсацыяй". Скажам, шмат гадоў заставалася спрэчным пытанне аб імені гэтага першадрукара, асветніка і гуманіста. Францыск ці Францішак? — спрачаліся даследчыкі. А некаторыя нават называлі яго Георгіем, лічачы, што гэта сапраўднае праваслаўнае імя Скарыны. Францішак, — сцвярджае Уладзімір Казбярук. Або, як правільна казаць: скарынаўскі ці скарынінскі? Скарынінскі, — падказвае аўтар. Адкуль жа пісьменнік валодае такімі звесткамі?

Супастаўляючы дакументы, аналізуючы гістарычныя падзеі, разглядаючы розныя беларускія слоўнікі тых часоў, а таксама звяртаючыся да іншых фактычных крыніц,аўтар састаўляе лагічны ланцужок са звестак і меркаванняў, паступова прыходзячы да сваіх асабістых пэўных высноў і сцвярджэнняў.

Усім вядома, што нарадзіўся Францішак Скарына ў Полацку. Аднак, дзе і як ён атрымліваў пачатковую адукацыю, для многіх заставалася загадкай, пакуль аўтар кнігі пра яго не прыйшоў да такой лагічнай высновы... Цытую: "На жаль, мы і да гэтага часу не маем дакладных звестак аб тым, у якой школе Францішак Скарына набываў свае першыя веды". Але даследчыкі "мяркуюць па-рознаму. Адны лічаць, што вучыўся ён у праваслаўнай царкоўнапрыходскай школе. Бо дзе ж бы ён мог пазнаёміцца так грунтоўна са славянскім пісьмом, з кніжнай мовай, з праваслаўнымі малітвамі, з царкоўнай літаратурай, з кнігамі Свяшчэннага пісання? Усё гэта выглядае лагічна", — заключае Уладзімір Казбярук.

Затым аўтар пачынае як бы абвяргаць гэтую "логіку". І аказваецца, што тады "...у праваслаўных школах не было латыні. А без яе Францішак Скарына не меў бы права паступіць у Кракаўскі універсітэт". Значыць, як лічыць пісьменнік, "Латынь жа мог вывучыць у адной са школ, створаных каталіцкім манашаскім ордэнам так званых бернардынаў". Тым больш, заўважае ён, што "Такія школы ўжо існавалі тады ў Вялікім Княстве Літоўскім".

Далей аўтар не выключае, "што зусім малады Францішак Скарына спярша набываў веды ў царкоўнай школе". Мауляў, яна была ва ўсіх адносінах больш даступнай і блізкай усёй сям'і", потым ужо — і ў каталіцкай "папоўніў" гэтыя веды. Бо "Праваслаўная школа і кніга больш адпавядала ўсяму укладу жыцця і ўяўленням сям'і, якая аберагала спрадвечныя традыцыі агульнарускай культуры і мовы". І выснова: "Але дапытлівы юнак, як відаць, імкнуўся спасцігнуць усю мудрасць, якую на радзіме можна было здабыць".

Затым быў ужо згаданы Кракаўскі універсітэт, дзе Скарына атрымаў ступень бакалаўра. Дзе ж набыў ступень доктара вызваленых навук — пакуль дакладна невядома. Пасля — падуанская навучальная ўстанова... А ў 1517 г. — першая друкаваная кніга ў Празе; 1522 г. — "Малая падарожная" і "Псалтыр"; 1525 — надрукаваны "Апостал"...

Вось так або інакш Уладзімір Казбярук асвятляе ў сваёй кнізе ўсе найбольш значныя моманты скарынінскага жыцця. І — падае нам новыя звесткі пра яго. Напрыклад, ці ведалі вы, што Скарына пэўны час быў сакратаром Даніі? Аказваецца, "У адным з дакументаў падуанскай біскупскай курыі Францішак Скарына называецца сакратаром караля Datiae". Але з ёй даследчыкі звязваюць як Данію, так і Румынію і Малдавію. Казбярук жа лічыць, што "...больш сапраўдным з'яўляецца меркаванне, што Францішак Скарына ўсё ж такі быў сакратаром Дацкага караля. Вядома, нам сёння не так проста ўявіць, якія шляхі прывялі Скарыну ў Капенгаген. Але бясспрэчна, — сцвярджае аўтар, — што малады адукаваны палачанін мог аказацца вельмі і вельмі патрэбным каралю для дыпламатычных, палітычных і эканамічных зносін са славянскімі дзяржавамі".

А ведаеце, што Скарына напрыканцы свайго жыцця, магчыма, працаваў садоўнікам? Дык вось, паводле Казберука,"У грамаце, датаванай 1552 годам паведамляецца, што колішні садоўнік Францішак Рус Скарына з Полацка памёр і што яго сын Сімяён мае права на ўсю бацькаву спадчыну". З кнігі такім чынам якраз і вынікае, што Францішак Скарына нейкі час працаваў каралеўскім садоўнікам у Празе, хаця аўтар з упэўненасцю і не сцвярджае гэты факт. Увогуле, у гэтай надзвычай цікавай кнізе шмат магчымасцей для роздуму. А калі яе прачытаеш, то думаеш: як добра, што і ў наш час ёсць людзі, якія імкнуцца зазірнуць як мага глыбей у гісторыю сваёй Айчыны, і, як кажуць, запоўніць там усе белыя плямы ды падзяліцца сваімі ведамі з іншымі. Таму хочацца шчыра падзякаваць слыннаму пісьменніку і даследчыку за яго цудоўны твор, які безумоўна стане бясцэнным дапаможнікам не толькі для нас, вучняў, але і для дарослых, для ўсіх тых, хто цікавіцца нашай гісторыяй. Вось толькі шкада, што на ўсю краіну такі малы тыраж — 2000 экземпляраў. Спадзяюся, што неўзабаве Уладзімір Міхайлавіч Казбярук адкрые нам таямніцы жыцця і творчасці яшчэ не адной нашай выдатнай гістарычнай асобы.

**Вольга ЛЕШЧАНКА,**
**вучаніца 11-га класа Мінскай тэхналагічнай гімназіі № 13**

# ЗГАДАЕМ ЦЯПІНСКАГА

Як вядома, гады нараджэння (каля 1540, в. Цяпіна) і смерці (каля 1603) беларускага асветніка, аднаго з кагорты піянераў-друкароў Васіля Мікалаевіча Цяпінскага-Амельяновіча пакуль што падаюцца ўмоўна, але апошняя дата дае нам нагоду сёння гаварыць пра гэтую Постаць.

Даследчыкі сведчаць, што ў сваім маёнтку В. Цяпінскі арганізаваў друкарню, якая дала свету Евангелле паралельна на дзвюх мовах — беларускай і старажытнаславянскай. Яны ж сведчаць, што прадмова да яго — адзін з лепшых і бліскучых узораў беларускай публіцыстыкі аж двух стагоддзяў — XVI—XVII.

Я знаходжуся ў вёсцы Крашын, якая па-сёння мае афіцыйны польскі ўжытак Крошын (станцыя Перамога на чыгунцы Мінск—Баранавічы), на тым самым месцы, дзе Рамуальд Зямковіч (7.02.1881—1943?1944?) адшукаў Біблію, надрукаваную ў Берасці ў 1563 годзе, а ў ёй дрэварыт з партрэтам аднаго з беларускіх піянераў-кнігадрукароў Васіля Цяпінскага, на якім унізе пасля яго абазначэння была дата, якая сёння арабскімі лічбамі чытаецца "1576" (Гл.: Бел. жыццё. 1919. 6 ліп.; Васіль Цяпінскі).

Мастацкая выява аднаго з першапраходцаў друкаванага слова была знойдзена ў маёнтку (сёння не існуе) памешчыка Канстанціна Святаполк-Завадскага, у яго бібліятэцы (што цікава, гэтая легендарная творчая асоба зусім не ўпамінае Паўлюка Багрыма. — М. М.).

Нейкі загадкавы дзівос? Біблія 1563 года, партрэт 1576 года. Адно з гэтага мы толькі можам уцяміць, што нейкі невядомы мастак зрабіў гэтую выяву пры жыцці самога Цяпінскага.

Дзе сёння знойдзены партрэт Васіля Цяпінскага з Крашына (сёння Баранавіцкі раён), нікому невядома, але яго прыжыццёвая выява сёння ёсць і ў даведніках, і энцыклапедыях. І ўсё гэта толькі дзякуючы беларускаму бібліяфілу, бібліёграфу, публіцысту, гісторыку беларускай літаратуры, краязнаўцу, перакладчыку, шукальніку Рамуальду Зямковічу.

# «ХВАЛЯ ПЛІСКАЕ СЛЯЗОЮ...»

Корпаючыся ў розных даведніках, зборніках, іншых друках, на што толькі калі-некалі не натрапіш. Так здарылася ў мяне, калі ўпершыню мае вочы наткнуліся на дасюль невядомае мне імя і прозвішча Міхася Борха (Michael Borch). Як аказалася, ён нават у 1850 годзе быў абраны маршалкам шляхты Віцебскай губерні. Канечне, для гісторыкаў і краязнаўцаў ужо гэтым адным ён цікавы. Але памешчык М. Борх (11.01.1806—12.10.1881) пераўзышоў усе мае чаканні. Да ўсяго іншага, ён яшчэ быў і творцам.

Роўна 160 гадоў назад (1843) Міхал Борх у Вільні выдае на польскай мове кнігу "Два словы аб Дзвіне", ёсць там і верш "Марціну Карніцкаму. Перасылаючы яму "Два словы пра Дзвіну", які на той час, як потым і сам аўтар, быў маршалкам шляхты Віцебскай губерні.

З юбілейнага верша Міхала Борха мы даём толькі пачатак у перакладзе паэта Уладзіміра Паўлава, а цалкам яго можна прачытаць у зборніку "Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай" (Мінск, 1988):

*Ёсць рака за даль-імглою —*
*Веку не відно.*
*Эрыданавай хваляю*
*Поўніцца ажно.*
*Хваля пліскае слязою*
*І бяжыць адно,*
*Не зважае, што пад ёю*
*Залатое дно.*

Міхась МАЛІНОЎСКІ,
правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г. Баранавічы



**ВІКТАР ШНІП**



•

*Прыходзяць вершы,*
*як забойцы, ноччу,*
*І, забіваючы спакой зямны,*
*Праз ноч паэта*
*гоняць сцежкай воўчай*
*Да чыстае паперы, як сцяны,*
*Каля якой расстрэльваюць*
*самоту,*
*Зялёную, як першая трава,*
*Што па вясне прыўкрасіла*
*балота,*
*Дзе правалілася ў нябыт царква.*
*Прыходзяць вершы,*
*як лісты ад смерці,*
*І хочаш іх чытай або спалі.*
*І можаш ты з нябёсаў*
*зоркі сцерці,*
*Нібы расу чырвоную з зямлі,*
*Але прыходзяць,*
*як забойцы, вершы*
*І, забіваючы спакой зямны,*
*Па-над тваёй душою*
*суд свой вершаць,*
*Не знаючы, што грэшныя й яны...*

## НА НАРАЧЫ

*У Мінску сумны ты*
*і тут — таксама,*
*Бо ўсё і тут не тое і не так,*
*І будзе так пакуль чакае мама,*
*А ты не едзеш,*
*плачаш, як дзівак,*
*Што сумна ў горадзе*
*і на прыродзе*
*І нат віно цябе не весяліць.*
*А мама зноў капаецца ў гародзе*
*І там ля плота*
*бацька твой не спіць.*
*Не ведаеш пра іх амаль нічога,*
*Не помнячы, не вечныя яны.*
*Мо нават карацей твая дарога*
*Чым іх да той адзінае сасны,*
*З якой ужо, магчыма,*
*дошкі сушаць*
*Пад сонцам і ўжо спеліцца віно,*
*Якое толькі развярэдзіць душы*
*І вечнасць не адкрые нам яно...*

•

*У прыцемках ідзеш без ліхтара,*
*Дарога, як крацiная нара,*
*Але ісці патрэбна,*
*каб тут жыць*
*І плакаць, і смяяцца,*
*і любіць*
*Дарогу гэту, бо няма другой.*
*Як лёд адзін над плыткаю ракой,*
*Як смерць, дарога з цемры*
*да святла*
*Хоць цемра ружай чорнай зацвіла*
*І суцяшае ўсіх без ліхтароў,*
*Самотных, адзінокіх, як ваўкоў,*
*Якім ісці патрэбна,*
*каб тут жыць,*
*І плакаць, і смяяцца, і любіць*
*Дарожны змрок і ўдалечы святло,*
*Якое ўжо, магчыма, адцвіло*
*І ўжо яго няма,*
*як зоркі той,*
*Што свеціцца яшчэ*
*па-над зямлёй...*

•

*Далёка ад роднага дома,*
*Ад тлуму, ад шуму, ад звад*
*Глядзіш ты на свет незнаёмы,*
*Нібыта палонны салдат*
*Глядзіць на чужую краіну,*
*З якой ці вярнуцца яму,*
*Бо некаму ж трэба загінуць*
*У гэту дурную зіму,*
*Калі пазамецены зоры,*
*Калі пазамецена тло*
*І снег, быццам хвалі на моры.*
*Бы ўмерзлае ў вечнасць святло,*
*Халоднае неба над полем,*
*Якім ты, як прывід, ідзеш*
*Напоўнены сумам і болем,*
*Ідзеш, як Хрыстос па вадзе,*
*Далёка ад роднага дома,*
*Ад тлуму далёка, ад звад...*

•

*Нясмелыя цёплыя дні,*
*Нібыта ў цямноцці агні,*
*Шчэ свецяцца ў восеньскай*
*плыні.*

*А лета, нібы не было,*
*І ў рэчцы на хвалях святло*
*Няспешна сплывае і стыне.*

*На беразе моўчкі сядзім,*
*На рэчку начную глядзім,*
*Нібыта на нашую долю.*

*І ты мне гаворыш пра свет,*
*Нібыта мастак пра партрэт,*
*Якога не будзе ніколі...*

•

*У дні, нібыта ў залатым агні,*
*Згараеш ты і следам пыл,*
*як дым,*
*І за табою застаюцца дні*
*У памяці, як пыле залатым.*
*І ўся дарога прад табой,*
*як цень*
*Ад крыжа, што застаўся*
*недзе там,*
*Калі пачаўся твой вандроўны*
*дзень*
*І міг, калі ты свой пакінуў Храм,*
*Каб праз агонь прайсці*
*і праз ваду*
*І зразумець,*
*што ты яшчэ не жыў,*
*Не бачыў,*
*як цярноўнікі цвітуць*
*На тым, табой пакінутым,*
*крыжы...*

•

*Песні слухаю і піва п'ю,*
*І жыццё вар'яцкае люблю,*
*Быццам любіць чорны пісталет*
*Малады наіўны інсургент,*
*Што загіне раніцай і снег*
*Замяце яго,*
*нібыта грэх*
*Замяце, і прыйдзе воўк стары*
*І не вернуцца назад сябры...*
*І мне хопіць піва,*
*каб слязой*
*Асвяціцца ў вечнасці начной*
*І сябе хоць крыху зразумець,*
*І ў сябе, нібы ў агонь,*
*глядзець,*
*Слухаць песні і ўцякаць з зімы,*
*Быццам інсургент — з турмы...*

•

*Дажджамі размытае неба,*
*І зоркі, як золата, свецяць.*
*Мне золата сёння не трэба,*
*Мой сябар са мной—сумны вецер.*
*Ён свечку затушыць за мною,*
*Калі я сыду назаўсёды*
*У свет чысціні і спакою*
*Ад нашай вялікай самоты,*
*Самоты па тым, што размыта*
*Дажджамі, стаптана сябрамі.*
*І тое, што намі разбіта,*
*Ніколі не склеіць слязамі*
*Пад небам, дзе зоркі шчэ свецяць*
*І птушкі, і душы крыляюць.*
*За мною ляціць сумны вецер*
*У свет, дзе мяне не чакаюць...*

## БАЛАДА ВОСЕНЬСКАГА ТУМАНУ

*Восень пачынаецца з туману,*
*Быццам бы агонь вялікі з дыму.*
*Дымам аніколі я не стану,*
*Дымам, што ахутае Радзіму,*
*Каб ізноў праз нашыя магілы*
*Пралеглі, нібы крыжы, дарогі,*
*Што нас не вядуць за небасхілы,*
*А ў карчму і цёмныя астрогі,*
*Дзе ніколі не бывае сонца*
*І ніколі там яно не будзе...*
*"Колькі нам заплаціш*
*ты чырвонцаў?"—*
*Зноў пытаюцца ў падпанка*
*людзі*
*І, адказ чакаючы, праз восень,*
*Быццам праз агонь, ідуць,*
*знікаюць*
*І, глядзіш, нічога ўжо не просяць,*
*Праз туман дарогі не шукаюць...*

*Восень пачынаецца з туману...*

•

*У Дубравах вяскоўцаў магілы.*
*Агароджы, крыжы і трава...*
*"Мой родны кут,*
*як ты мне мілы..."—*
*Зноў світае ў ва мне, як царква,*
*Да якой нам ісці, не губляцца*
*У жыцці, як высокай траве.*
*У той свет не забраць*
*нам палацаў,*
*Наша слова нас перажыве,*
*Не забудзецца, стане малітвай*
*І ажывіць над намі крыжы,*
*І вадой, быццам небам разлітым,*
*У траве завіднеюць глыжы,*
*Што кідалі ў Хрыста*
*хто не верыў...*
*І хаджу я між нашых магіл,*
*На якіх ляжаць пліты, як дзверы*
*У анёльскі, як Храм, небасхіл...*

•

*Сяброў няма,*
*ды іх шукаць дарма,*
*Калі віна, нібы агню, няма*
*І гэты дзень,*
*дзе ўжо няма сяброў,*
*Нібыта партманет*
*без ста рублёў,*
*Якія шчэ нядаўна ў нас былі,*
*Калі віно, шчаслівыя, пілі*
*І марылі, што разам да святла*
*Мы дойдзем і дарога ў нас была*
*Адна, як пляшка,*
*і на ўсіх адна*
*Айчына, як чаканая вясна,*
*Якая ёсць, як нашая зямля,*
*Якую ні за што не кіну я,*
*Бо тут сябры, як горкае віно,*
*Хоць горкае,*
*ды ёсць у нас яно,*
*Як дзесьці прыхаваныя рублі,*
*Якія ўсё ж мы ўсе не прапілі,*
*Бо мы сябры і гэта не віно,*
*А светлае ў глухой начы вакно,*
*Дзе ты не спіш*
*і я не сплю даўно...*

•

*Дні лятуць, як пыл у час*
*вятрысты,*
*Засыпаюць нас,*
*нібы траву,*
*Што каля дарогі ў полі чыстым*
*Вырасла, і вымавіць "жыву"*
*З нас не кожны паспявае сёння,*
*Як і ўчора не паспеў сказаць,*
*У бязвер'е ўпаўшы,*
*як бяздонне.*
*Росна зоркі ў бездані гараць.*
*А да іх далёка нам заўсёды.*
*Ну а душы могуць даляцець*
*Са святлом азёраў і лістоты*
*Тых бяроз,*
*якім пазалацець*
*Восенню, што ўжо не за гарою,*
*Дзе, як лісце,*
*тыдні палятуць*
*І да воч напоўняць нас журбою*
*І з сабой, як цень свой,*
*панясуць...*

ПРОЗА

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

## У ПОШУКАХ СЭНСУ

О, няўрымслівая мая Урсула, хай не палохаюць цябе завоблачныя глыбіні ў назве майго ліста, бо ўсё складанае часам адмыкаецца звычайным ключом, а мудрасць не бывае двухсэнсоўнай, алегарычнай, хітрай — яна ясная, зразумелая для ўсіх і празрыстая ў сваёй прастаце і прыгажосці, як хмарка на небе. Мы ўзмацняем нашу жыццёвую актыўнасць неабходнасцю пошукаў сэнсу, але не думаем звычайна пра пачатак, пра вытокі. Бо калі занадта разважаць пра таямнічае, непадуладнае ні тваім пачуццям, ні твайму розуму, дык бадай што і жыццё не будзе мець сэнсу. А калі яшчэ трапіш у палон памылковых каштоўнасцей, штучна навязаных табе сіламі спакусы і заганаў, дык разуменне сэнсу не прыйдзе і ўвогуле. І ў той жа час варта калі-нікалі ўзгадваць пра яго. О, мая самотная Урсула, вярнуць тых, хто паў духам ад усведамлення заўсёднай прысутнасці смерці за плячыма, на шлях дабрадзейнасці і прагі жыцця — таксама сэнс існавання. Расчыні акно ў восень. Для сэнсу дастаткова аднаго прыметніка. Восень... Дададзім да яе слова "залатая", і вокамгненна ўсё знойдзе сэнс. Аднаго чалавека, на жаль, не хапае для сэнсу. Яму патрэбны яшчэ хтосьці: Бог, маці, бацька, жанчына, дзіця. Хто жыве з думкамі пра апраўданне свайго прызначэння перад Богам, той жыве асэнсавана. Яно шматаблічнае, гэта прызначэнне. Мы ўсцешымся, як пасадзім дрэва, узгадуем дзяцей, адчуем задавальненне ад жыццёвых клопатаў і турботаў, калі здабудзем пашану і павагу людзей. Так, так і яшчэ раз так. Сэнс жыцця -- зведаць усё пры жыцці, шчасліва пазбягаючы грэшных, жахлівых разбурэннем душы спакусаў, бо няма сэнсу ў турме, торбе, куле. Кожны дзень, о мая працавітая Урсула, дадзены для радасці, а каб асэнсаваць яе, насыпаецца часам і гора. Сутнасць жыцця -- адчуваць сябе вольным, калі ад тваёй волі другім карысць, а не шкода. Наколькі чалавек моцны, настолькі ён і слабы. Часам і слова забівае. Іншы раз і дотык да тваёй рукі чужога чалавека ставіць пад сумненне сэнс слоў пра "жаданне дотыку толькі рукі каханага". Бо ў закаханага свае, чараўнічыя, асаблівыя і пяшчота, і ласка, і дакрананне. Закаханы мусіць бачыць ва ўсім сэнс. Гэта няпраўда, што ён сляпы. Гэта толькі для дзіцяці няма сэнсу жыцця, ён яго яшчэ не ўсведамляе з-за таго, што не ведае і не думае пра канец шляху, ён шчыра і з замілаванасцю радуецца самому жыццю. О, якія мы шчаслівыя, Урсула, што гэта дзіцяча-наіўна-ўзнёслая радасць быцця не пакідае і нашы сэрцы, што настаўленне, скруха, напышлівая важнасць, фанабэрыя, злосць, помста адгукаюцца ў нашых душах толькі пустым гукам, які нават і не палохае. Адчыні акно ў зіму, не стамляйся ўхваляць жыццё... гэта ж толькі цела злёгку мерзне, а на душы цёпла, цёпла... Ад таго, што ёсць ты, ад таго, што ёсць я, ад таго, што ёсць свет боскі. Хай не палохае цябе аднастайнасць, падобнасць, будзённасць. Кожны пражыты дзень папаўняе скарбонку сэнсу жыцця. Шлях сонца аднастайны і заўсёдны, але мы не задумваемся над гэтым. Таму, каго агарнуў адчай з-за невырашальнасці сумненняў і жаху безвыходнасці, нагадваць: "Напоўні жыццё сэнсам". Ад раба божага перайдзі да чалавека божага. Не бойся зла, што ідзе ад прыроды, бойся зла, што ідзе ад людзей. Напоўніць сэнсам? Навучыцца бачыць прыгажосць свету і шанаваць яе. Ведаць, што і ты сам з'яўляешся крыніцай радасці і гора для другіх. Хай, хай перадаецца ад нас іншым толькі радасць, о мая Урсула! Напоўніць сэнсам? Значыць адчуваць шчасце ад кожнага дня, што ты пражыў. Адчыні дзверы ў вясну, Урсула. І ты пераканаешся, як усё вітае цябе, радуецца, сустракае цябе, разумную, адданую, добрую, прыгожую. Вазьмі хоць які з гэтых прыметнікаў і дадай да свайго імя, і ўсё набудзе сэнс, ты вартая гэтых слоў. Не бядуй праз страчаныя плады спакусаў. Ад дабра дабра не шукаюць. О, радасць жыцця майго, Урсула! І я, як чалавек боскі, хачу таксама адамкнуць сваім ключом гэту таямніцу, каб зазірнуць у прыадчыненыя дзверы сутнасці. Я пакахаў, я кахаю, значыць, я знайшоў сэнс жыцця. Але чалавеку, каханая, дадзена, на жаль, надзвычай мала часу, каб паспець назапасіць і асвоіць філасофію сэнсу. Будучыня мудра схаваная, і дзякуй творцу за тое. Таму і чуваць з усіх бакоў (як пажаданне і абавязак) "шукайце сэнс жыцця", "шукаем сэнс жыцця", "шукаю сэнс жыцця". Але скажы, як і навошта мне шукаць і знаходзіцца ў гэтым сэнсе жыцця без цябе, о лета маё салаўінае, каханне маё, Урсула! Навошта?

## АДЗІНОТА

О, мая Урсула, ты аднойчы паспачувала адзінокай дзікай грушы ў полі. І я задумаўся. Чалавек жа перажывае адзіноту не з-за таго, што ён мусіць абавязкова застацца адзін у гарах ці ў лясной хацінцы. Нават па сваёй волі сядаючы ў стоўб, у келлю, мніх не адзінокі, бо праз малітвы заўсёды застаецца ў кантакце з Творцам. Адзінота — гэта стан душы. Адзінокі чалавек, а ён часцей за ўсё засяроджана-задуменны, часам робіць уражанне чалавека пахмурнага, але гэта не так. Пахмурны — уласцівасць характару. Аднак, свядома не імкніся да адзіноты, пад старасць яна цябе і сама знойдзе. Сам-насам з сабой чалавек ніколі не застаецца. Ён толькі часова адасабляецца, адгароджваецца ад знешняга свету. Побач з ім заўсёды прысутнічае матухна-прырода, сваёй разнастайнасцю, шалам веснавых і восеньскіх фарбаў, мелодыяй ветру, ціхім спевам дажджу і снега яна акампануе тваёй адзіноце, падкрэслівае яе асаблівасць і настройвае душу на пэўны лад, звычайна сентыментальны. Прастора напаўняецца паэзіяй, о, мая светлая Урсула. У адзіноце ёсць свая асалода. Мігціць агонь у печцы, тлее вуголле і свячэнне ягонае надзвычай яскравае, таямнічае, як на зыходзе сонца. І спакойныя думкі пра сэнс жыцця, пра Бога, пра недасканаласць светабудовы, пра таямніцу смерці і нараджэння, пра дзяцінства напаўняюць душу. Гэтак утульна, цёпла. Светлая журба адзіноты. Ранняй вясной падае са страхі капеж проста ў далонь. О, якая гэта радасць успрымання свету, Урсула! Мая адзінота заспакойвае мітуслівую душу разважаннямі. Мары кудысьці знікаюць. Павольна коціцца трамвай і дарозе няма канца, не хочацца выходзіць. Нішто не турбуе ні думкі пра работу, пра грошы, ні мары, ні надзеі. Хай вязе, кружыць трамвай, хай кружацца ўспаміны пад грукат колаў. Так хораша. А пасля... луста жытняга хлеба, шклянка малака, а за вакном насцярожана-ўважлівыя вочкі вераб'я і сінічкі. Вольна. Плыве дымок ад цыгарэты, глыток кавы, плед на каленях, маўклівы тэлефон: нарэшце ён наўмысна адключаны. Хораша. Светлы сум. Рэчка, возера — адвечныя спадарожнікі адзіноты. Вада ціхая, цякучая, спакойная, яна лечыць стомленую сумненнямі, расчараваннямі, крыўдамі і докарамі душу. Яшчэ далёка да вялікай скрухі па няспраўджаным і цяжкі груз пражытых гадоў яшчэ не палохае жахлівымі расчараваннямі. Бо пражыта зусім мала: усяго сорак з хвосцікам. Вось і першая трывога: адзінота можа перарасці ў адчай. Восеньская лістота, што яшчэ не паспела пацьмянець пад нагамі, — адзіны сведка тваёй адзіноты. О, якія ж п'янкія самота і спакой! Здаецца, чуеш дыханне дрэваў, апошніх красак восені. Сэрца замірае. Душы соладка ад пачуцця адвечнай роднасці з тым, што бачаць вочы. Чаму, чаму старыя мудрацы засцерагаюць, што адзіноту выносіць цяжка? Кажуць, што тады нават спрытная зязюля ў насценным гадзінніку не радуе, а раздражняе. А столькі ж гадоў выклікала дзіцячае захапленне і замілаванне. Чаму? На душы няма трывогі. Хораша на душы. Адзінокі — значыць вольны. Вярнуўся да зносін са знешнім светам і адразу абмежаваў свабоду да мінімуму. Далібог, лёгка пачуваца адзінокім. Нават цікава: ці можна так увесь час жыць без абавязкаў перад іншымі? Святасць і грэх разам зніклі, о мая прыгожая Урсула. Самазаспакоенасць недаўгавечная. Прывідны спакой і раўнавага ілюзорныя. Дражніць і дражніць аднастайным карканнем у соснах варона. Гэты дзіўны, незразумелы, таямнічы покліч жураваў над возерам. Ластаўка над вакном другі раз за лета вывела птушанят. Сціснула сэрца: а ці здолее, ці зможа ўзгадаваць? Нечакана заплакала ўначы дзіця на двары і пякучая трывога ўжо не пакідае, не дае заснуць да раніцы. Усё, разам знікаюць усе думкі пра нябожчыкаў родных і сваякоў, сяброў і знаёмых. Скруха накшталт вялікай скрухі Дон-Кіхота падступае да горла. Надзея, нават слабая, на тое, што ты сам яшчэ патрэбны хоць бы аднаму чалавеку на зямлі, умацоўвае ўпэўненасць у шчасці. Так, хораша, лёгка, вольна, светлая журба, пананне адзіноты, лунанне ў прасторы, імкненне гаварыць вершаванымі радкамі!.. Але ж не... нешта не тое... а як жа ты недзе там, адна? Божа, тэлефон адключаны! Забяры, забяры мяне з віра-царства адзіноты, мая Урсула, гэта ў тваёй уладзе, забяры, бо надта ж хутка абрыдла мне яна, забяры, мая ўсемагутная Урсула.

**Георгій МАРЧУК**





# «БЕЛАЯ ВЕЖА—2003»



**З 10 па 16 верасня ў Брэсце адбыўся VIII Міжнародны тэатральны фестываль “Белая Вежа — 2003”. Ужо другі год запар фэст ладзіцца з мінімальным удзелам Міністэрства культуры РБ. Сёння аснoўнымі арганізатарамі “Белай Вежы” з'яўляюцца Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт (у асобе старшыні В. Даўгалёва), Брэсцкі тэатр драмы і музыкі, Брэсцкі тэатр лялек, а таксама ТА “Беларускі СТД”.**

**Як заўсёды, конкурсная праграма тэатраў драмы і тэатраў лялек была вельмі насычанай. Сёлета ў Брэст прыехалі самабытныя тэатральныя калектывы з Расіі (Дзяржаўны тэатр нацый, Масква; Тэатр лялек “Патудань”, Санкт-Пецярбург; Дзяржаўны акадэмічны цэнтральны тэатр лялек імя С. Абразцова, а таксама Пскоўскі тэатр лялек), Украіны (Кіеўскі эксперыментальны тэатр, Кіеўскі тэатр “Кола”, Крымска-татарскі акадэмічны музычна-драматычны тэатр, Сімферопаль; Палтаўскі тэатр лялек, Івана-Франкоўскі тэатр лялек), Польшчы (Тэатр К-1, Вроцлаў; Тэатр лялек “Гулівер”, Варшава), Германіі (Вышэйшая тэатральная школа імя Э. Буша, Берлін; Тэатр фігур KREONTOUR), Літвы (Маладзёжны тэатр Літвы, Вільнюс; Вільнюскі тэатр лялек “Леле”), Латвіі (Рыжскі акадэмічны тэатр рускай драмы), Італіі (Teatrino GIVLLARE, Сасо Марконі), Малдовы (Рэспубліканскі тэатр “Лучафэрул”, Кішынёў), Арменіі (Дзяржаўны ордэна Дружбы народаў рускі драматычны тэатр імя К. Станіслаўскага, Ерэван; Дзяржаўны тэатр лялек імя А. Туманяна, Ерэван), Абхазіі (Абхазскі дзяржаўны драматычны тэатр імя С. Чанба, Сухумі), Балгарыі (Драматычна-лялечны тэатр “Канстанцін Вялічкаў”; Пазарджык), Македоніі (Дзяржаўны тэатр Шціп), а таксама Ізраіля (Німродскі тэатр танца, Модзіін).**

**Рэспубліку Беларусь у гэтым годзе прадставілі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы (“Беларусь у фантастычных апавяданнях”), Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (“Дзівакі”), Брэсцкі тэатр драмы і музыкі (“Клоп”), Магілёўскі абласны драмтэатр (“Ноч Гельвера”), Брэсцкі тэатр лялек (“Лоўца пацукоў”), Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка” (“Тыграня Петрык”), Беларускі тэатр “Лялька” з Віцебска (“Кот у ботах”).**

**Па выніках фэсту, Гран-пры за лепшы спектакль сярод тэатраў драмы атрымаў Абхазскі дзяржаўны драматычны тэатр імя С. Чанба (“Махаз”), а з “лялечнікаў” самымі лепшымі выглядалі артысты Санкт-Пецярбургскага тэатра лялек “Патудань”, якія разыгралі спектакль “Неўскі праспект”. Прызамі за лепшы тэатральны эксперымент былі ўганараваны Магілёўскі абласны драмтэатр за спектакль “Ноч Гельвера” (тэатры драмы), а таксама драматычна-лялечны тэатр “Канстанцін Вялічкаў” з Балгарыі за спектакль “Святая кніга” (тэатры лялек). Лепшымі акцёрамі былі прызнаны А. Сейтаблаеў, А. Цэміркаева (драма), А. Дзенiнкаў, Т. Тэвасян (лялькі). Прыз “За дасканаласць акцёрскага майстэрства” атрымаў вядомы беларускі акцёр з купалаўскага тэатра Г. Аўсяннікаў.**

**В. Б.**

*НА ЗДЫМКУ: адна з галоўных пляцовак фестывалю — Брэсцкі тэатр драмы і музыкі.*

**ФОТА Э. КАБЯКА**

ТЭАТР

# ПАД КУПАЛАМ «ХРАМА»

***Сёння ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі адкрываецца новы сезон.***

Яшчэ лагодным майскім вечарам я разам з тузінам такіх жа заўзятых тэатралаў, каго не спакусіла рамантычнае надвор`е, выправілася на чарговую прэм`еру ў Тэатр беларускай драматургіі. Шкадаваць аб сваім выбары мне не давялося – спектакль “Каласнікі” ўразіў сваёй шчырасцю, светлым лірызмам і дасціпным гумарам...

За мінулы тэатральны сезон РТБД сцвердзіў за сабой імідж паспяховага “паляўнічага” на новыя імёны ў драматургіі, рэжысуры і акцёрскім майстэрстве. Творчы “канвеер” амаль штомесяц выдаваў новыя спектаклі, здолеўшы пры мінімальным фінансаванні ствараць даволі якасны і цікавы тэатр. Не маючы магчымасці скарыць гледача відовішчнымі спецэфектамі і шыкоўнымі касцюмамі, мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Анісенка зрабіў стаўку на творчую акцёрскую і аўтарскую моладзь, жаданне самарэалізацыі і неабыякавасць якой сапраўды здольныя адолець хранічную беднасць беларускага тэатра. (У новым сезоне ў РТБД запланавана паставіць таксама шмат новых спектакляў: “Лафантэн, альбо Белая кашуля з чорным каўняром” А. Карэліна, “П'емонцкі звер” А. Курэйчыка, “Мальер, ці Кабала святош” М. Булгакава, дзіцячы мюзікл “Айбаліт, Бармалей, пра жывёл, дзяцей і Брадвей”...)

Цяпер, услед за папулярным Андрэем Курэйчыкам, РТБД можа ганарыцца яшчэ адным адкрытым ім маладзёнам – Андрэем Шчуцкім, выпускніком Беларускай акадэміі мастацтваў і аўтарам трагікамедыі “Каласнікі”. Нагадаю, што гэтая п`еса заняла другое месца на конкурсе п`ес для драматычнага тэатра, што праводзіўся Міністэрствам культуры пад дэвізам “Чалавек і грамадства”. “Каласнікам” пашанцавала ад пачатку — яе пастаноўкай заняліся выдатны рэжысёр Вітаўтас Грыгалюнас і адна з лепшых маладых сцэнографаў Алеся Снапок-Сарокіна.

П`еса пра тэатр і людзей, хворых на тэатр, з`явілася ў маладога драматурга не на пустым месцы – самому Андрэю давялося працаваць рабочым сцэны ў адным са сталічных тэатраў, таму закуліснае жыццё і яго персанажаў ён ведае не паводле чутак. Праўда, каб не выклікаць асацыяцый з творцамі айчыннай сцэны, ён надаў сваім героям замежныя імёны. Падзеі п`есы разгортваюцца на тых самых каласніках – месцы, бачным толькі працоўным тэатра. Унізе – залітая прамянямі святла сцэна і халёны тэатральны глядач, а тут толькі пыл, хісткія пераходы і састарэлы рэквізіт. І менавіта тут знаходзіць сабе прытулак стары артыст, былы “кароль сцэны” Пітэр Уінтар. Сваім дабравольным затачэннем ён змагаецца за правa як і раней выходзіць на сцэну, змагаецца з мінулым і расчараваннем у жыцці. Гэтая роля ў спектаклі РТБД дасталася акцёру Валерыю Кашчэеву, які паралельна з працай у тэатры вядзе на ГРТ “Нашы навіны”. Ён па максімуме скарыстаўся магчымасцямі цікавай і такой блізкай для любога акцёра ролі, зрабіўшы бунтара Уінтара сапраўды жывым чалавекам, які выклікае і спачуванне, і абурэнне, і разуменне. Яго напарніцы Галіне Чарнабаевай роля актрысы і былой каханай галоўнага героя Магдалены Спрынг таксама дазволіла вырвацца з шэрагу другарадных ролей і здзівіць гледача сваёй арганічнасцю і жыццярадаснай энергіяй. Вераніцы Буслаевай, Наталлі Халадовіч, Аляксандру Марчанку і Максіму Паніматчанку давялося сыграць (у розных саставах) саміх сябе – маладых акцёраў Джэры і Эйпрыл, якія адчуваюць эйфарыю ад сваіх першых крокаў на сцэне. Асабліва вабным у драматурга атрымаўся рабочы сцэны Джэры, вельмі блізкі аўтару. Напэўна, кожны акцёр, сапраўдны аматар тэатра, у свой час з захапленнем прамаўляў нешта накшталт: “Мы з Бобі учора былі войскам. Усе ў далоні пляскаюць, а я стаю такі ашалелы...”

Спектакль здзівіў і ўзрушыў перш за ўсё трапяткім стаўленнем да яго вялікасці Тэатра, тонкім адчуваннем яго існасці і вымярэння, ў якім існуе творчы чалавек. Тэатр для драматурга і яго персанажаў – жывая істота, а не проста дом са сцэнай і залай. У яго ёсць душа і свой характар. Муза Мельпамена тут ператвараецца ў багіню, свавольную, часта няўдзячную, але неадольна прывабную. Адметнае спалучэнне абагаўлення і іроніі адразу нагадвае чэхаўскую “Лебядзіную песню”, дзе стары акцёр таксама пакутуе ад легкадумнасці сваёй каханай багіні. Андрэй Шчуцкі дабудоўвае да чэхаўскага тэатра—храма каласнікі, купал храма, адкуль муза Мельпамена часам усміхаецца сваім слугам, а часам – і такое бывае – “паплёўвае ім у цемечка”...

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

**P.S. Спектакль “Каласнікі” можна паглядзець 25 верасня.**

КІНО

***...Яшчэ да пачатку лістапада працягнуцца здымкі новага беларуска-расійскага фільма “Дунечка”. Сёння на “здымачнай пляцоўцы” (у Купалаўскім тэатры – аб'ект “тэатр Мінска”, ПК імя Дзяржынскага – аб'ект “паўднёвы тэатр”, на Мінскім моры, у яхтклубе, а таксама ў Ялце) эпізод за эпізодам складваецца лірычная кінагісторыя пра першае каханне.***

# ДУНЕЧКА + КОЛЯ

Беларускі рэжысёр Аляксандр Яфрэмаў здымае поўнаметражную стужку, якая распавядае аб закулісным жыцці тэатра 70-х, вясёлай, непасрэднай акцёрскай “тусоўцы”. Між іншым, па задуме аўтара сцэнарыя С. Шафранскай у шумлівым акцёрскім асяродку ўзнікае замілаванае пачуццё закаханасці паміж дзецьмі відачынцаў — трынаццацігадовай Дунечкай (мінская школьніца Маша Возба) і васемнаццацігадовым Колем (фільм прысвечаны памяці М. Яроменкі-малодшага), якога іграе студэнт Шчэпкінскага вучылішча Уладзімір Жарабцоў. Як расказаў рэжысёр карціны карэспандэнту “РИО”, у рэчаіснасці пастаўшыя юнакі сустракаліся і надалей. Мелі добрыя стасункі, але, як і любое сапраўднае каханне, гэта не скончылася шлюбам. Аднак фінальныя кадры фільма “Дунечка” мусяць паставіць знак пытання. Гледачы самі будуць вырашаць, ці застануцца ў будучым героі разам. А ўвогуле гісторыя кахання М. Яроменкі зрабілася толькі матывам для фільма. “Мне хочацца, каб карціна закранула кожнага гледача. Бо ва ўсіх нас было сваё першае каханне”, — прызнаўся “РИО” А. Яфрэмаў.

*НА ЗДЫМКАХ: рабочы момант здымак фільма “Дунечка”; М. Возба — Дунечка.*

**ФОТА А. ДЗМІТРЫЕВА**



Трэба адзначыць, што па дамоўленасці з расійскім бокам (фільм робіцца сумесна з расійскім Фондам падтрымкі кінематаграфіі) у стужцы “Дунечка” павінны быць задзейнічаны не менш за тры расійскія акцёры. У новай карціне А. Яфрэмава здымаюцца вядомыя кіназоркі Зінаіда Шарко (бабуля Дунечкі), Міхаіл Яфрэмаў (рэжысёр тэатра), Ігар Бочкін (бацька Дунечкі). Трапіць на кінаэкран і шмат беларускіх акцёраў: маці Дунечкі сыграе В. Арланава, памрэжа — А. Ткачонак, а артыстаў тэатра ўвасобяць Г. Аўсяннікаў, Ю. Палубінская, Э. Сакура, А. Кот, і многія іншыя з “нашых”. Упершыню на кінаэкране з'явіцца ўжо вядомы драматург А. Курэйчык, які ў стужцы “Дунечка” сыграе самога сябе — г.зн. драматурга (а маці экраннага героя А. Курэйчыка ўвасобіць імпазантная Э. Язерская). Аператарам карціны выступіў А. Рудзь, мастаком-пастаноўшчыкам — Л. Пруднікаў, мастаком па касцюмах — Н. Гурло.

**В.БАРАБАНШЧЫКАВА.**



*Чалавек ён адметны, мае высокі сацыяльны статус і вылучаецца яркім грамадскім тэмпераментам. Набыў вядомасць у нашай краіне як стваральнік, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор капэлы "Sonorus". З верасня 2002 года сумяшчае гэтыя справы з пасадай дырэктара Беларускай дзяржаўнай філармоніі.*

*Аляксей Шут адзначыў нядаўна сваё 55. Юбілей — не юбілей... Насуперак традыцыйнаму ўрачыстаму тону цікава паспрабаваць раскрыць унутраны свет гэтага музыканта, акрэсліць кола яго думак, яго светапогляд. Тым больш, што герой аповеду не імкнецца пазіраваць. Ён такі, які ёсць.*

# «У МУЗЫЦЫ НЕ ТРЭБА СТЭРЫЛЬНАСЦІ...»

На адной з рэпетыцый, у жаданні дамагчыся ад музыкантаў належнага разумення мастацкага вобраза, Аляксей Аляксандравіч з уласцівай для яго запальчывасцю выгукнуў: "Музыка — гэта жыццё, з сонцам і брудам, з каханнем і нянавісцю. У музыцы не павінна быць стэрыльнасці!"



***— Дык што ж для маэстра музыка? Музыка і жыццё: як суадносяцца гэтыя паняцці?***

— Музыка з'яўляецца адлюстраваннем жыцця. Яе складае кампазітар, які існуе ў пэўную эпоху, выхаваны гэтай эпохай. У кожным музычным творы, як у кроплі вады, адлюстроўваецца той час, у якім жыў яго аўтар. Але музыка — гэта не проста мастацтва, гэта — і лад жыцця, і спосаб мыслення. Музыка — гэта самая высокая праява духу чалавека. Яна ўздзейнічае перш за ўсё на эмацыянальную сферу слухача і, такім чынам, фарміруе яго светапогляд. Музыка здатная і ўзвышаць чалавека, і апускаць яго да самых нізкіх пачуццяў. Вакальнае, харавое мастацтва — асабліва, бо паэтычны тэкст садзейнічае яшчэ больш моцнаму яе ўплыву на ўнутраны свет слухача.

***— Можна ўсё жыццё рабіць адну справу, можна заўсёды адкрываць для сябе "новы мацярык"... Як у вас з'яўляюцца новыя ідэі і праекты?***

— Усё знаходзіцца ў развіцці. Усялякая дзейнасць вымагае руху наперад. Калі ты спынішся, дык ідзеш уніз. Я не люблю азірацца назад, не жыву мінулым, але і не забываю пра тое, што было. Ацэнка чалавека і яго дзейнасці даецца сучаснікамі. Галоўнае — тое, каб цябе разумелі. Я — выканаўца і таму павінен заўсёды думаць пра слухачоў. Неабходна ўлічваць густы і ўяўленні тых, дзеля каго ты выходзіш на сцэну.

Трэба, каб новыя ідэі і праекты адпавядалі часу. Калі змяняеш напрамак, ты ўдасканальваеш сябе. Мне цікава працаваць з хорам, аркестрам, салістамі. Я мару пра сцэнічныя пастаноўкі. Для мяне музычная капэла — гэта набліжэнне да тэатра. Я хачу стварыць камерны музычны тэатр — такую тэатральна-канцэртную арганізацыю, дзе быў бы прадстаўлены шырокі дыяпазон жанраў, дзе б і ставіліся оперныя спектаклі, і гучалі сімфоніі, кантаты, араторыі. У такім тэатры я бачу эксперыментальную базу для выканання буйных музычных твораў з выкарыстаннем разнастайных сцэнічных эфектаў, адмысловага асвятлення і г.д. Так можна было б паказаць вядомыя творы па-новаму. Камерны музычны тэатр даў бы магчымасць для рэалізацыі розных творчых планаў, а таксама для рэалізацыі талентаў выканаўцаў — спевакоў і музыкантаў. У краіне павінны існаваць і вялікія калектывы, і мноства малых — камерных ансамбляў, аркестраў, тэатраў. Для таго, каб людзі маглі заўсёды далучыцца да высокага мастацтва, трэба стварыць адпаведнае асяроддзе.

***— У чым, на ваш погляд, галоўная праблема сучаснага развіцця музычнай культуры ў нашай краіне?***

— Творчасць вымагае няспыннага ўдасканальвання. Гэта — пякельная, вар'яцкая праца. Вельмі важна, каб гэта разумелі нашы кіраўнікі. Мастаку неабходна стварыць умовы для самарэалізацыі. Мастак не павінен увесь час думаць пра побытавыя праблемы, ён мусіць засяродзіцца на творчасці, а таму павінен мець за сваю працу належную плату. У яе адсутнасці — адна з прычын ад'езду з Беларусі многіх таленавітых музыкантаў.

Грошай не хапала заўсёды, але гэта не прычына, каб упускаць час. У грамадстве ёсць разуменне таго, што трэба вучыць дзяцей чытаць і лічыць. Але ж калі мы ўзгадуем пакаленне, якое не ўмее суперажываць, якое не будзе эмацыянальна спагадлівае, то ўменне чытаць і лічыць страціць сэнс. А да ўспрымання мастацтва трэба быць інтэлектуальна падрыхтаваным. Чалавек, які ўсё жыццё чытаў толькі анекдоты ды кароткія апавяданні, ніколі не здолее адразу прачытаць "Вайну і мір" Л. Талстога. Акадэмічная музыка як мага больш павінна гучаць на канцэртнай сцэне. Толькі так можна процістаяць валаваму нашэсцю пацяшальнага мастацтва. І гэта цалкам залежыць ад дзяржавы і яе стаўлення да ацэнкі працы мастака. Трэба заўсёды думаць пра будучыню нацыянальнай культуры.

Аляксей Шут — стваральнік па сваёй сутнасці і здольны здзейсніць многае. Ва ўсім, што ён робіць, ёсць моцны адбітак яго волі, асабістага "я" і адчуванне духу і пульсу часу. Ён у заўсёдным творчым пошуку і ніколі не спыняецца на ўжо зробленым, любіць быць першаадкрывальнікам і вельмі ўпарты ў дасягненні сваіх мэт. Фантастычна працаздольны, А. Шут увасабляе мноства сваіх ідэй, нават самых, здавалася б, неверагодных. Таленавіты як музыкант і як адміністратар, ён лічыць, што дырэктар — гэта пасада, а дырыжор — прафесія. Аб'яднанне таго і другога дае яму больш шырокія магчымасці, каб ажыццявіць свае мастацкія задумы.

Чалавек харызматычны, ён уцягвае ў сваю арбіту розных людзей, многія з якіх робяцца яго памочнікамі і аднадумцамі. Працаваць з ім цікава — і цяжка: і з-за яго вялікай патрабавальнасці да калег, і з-за выбуховасці, няроўнасці яго характару. Так, у яго асобе спалучаецца мноства супярэчнасцей: эмацыйны напал і халодны разлік, уважлівасць і жорсткасць. Чароўны ў захапленні і бязлітасны ў гневе, А. Шут — чалавек крайнасцей, які імкнецца да гармоніі. Аляксей Шут стварае свой свет — такі, у якім можа быць асляпляльнае сонца, навальніца, вывяржэнне вулкана, метэарытны дождж, пясчаная бура, але ніколі не будзе спакою і зацішша...

Алена КАЛЕСНІК

ФОТА К. ДРОБАВА



# СЕЗОН ВІНШАВАННЯЎ

***Спачатку прыхільнікі айчыннага харэаграфічнага мастацтва павіншавалі ўсіх — увесь калектыў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Беларусі — з адкрыццём новага сезона. У той жніўеньскі вечар на сцэне зноў паўсталі класічныя вобразы "Лебядзінага возера" П. Чайкоўскага — найпапулярнага твора, неад'емнага ад 70-гадовай гісторыі нашага Вялікага тэатра.***



**"Лебядзінае возера" — гэта і легендарныя 30-я гады, калі заваёўвалі прыхільнікаў салісты першага харэаграфічнага пакалення. Гэта і пачатак XX стагоддзя, калі, у які ўжо раз абноўлены, шэдэўр з музыкай Чайкоўскага застаецца ці не паўсюдна самым запатрабаваным узорам свайго жанру, спрыяючы пераемнасці пакаленняў у традыцыйным мастацтве. "Лебядзіным возерам" тэатр завяршыў 70-ы сезон у ліпені і вось — распачаў новы, прадставіўшы бліскучы дуэт сённяшніх выканаўцаў галоўных партый — Кацярыну Фадзееву ды Ігара Артамонава.**

**Ды не мінула і тыдня, як з'явілася новая нагода для віншаванняў. Салісту Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Ігару Артамонаву нададзена ганаровае званне заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь. Living Рознабаковы талент! У яго рэпертуары — партыі герояў лірычных, рамантычных і характарных. Сярод балетаў з удзелам І. Артамонава — "Сон у летнюю ноч" на музыку Ф. Мендэльсона, "Марная перасцярога" Л. Герольда, "Рамэо і Джульета" С. Пракоф'ева...**

**Дарэчы, стваральнік спектакля на гэты неўміручы шэкспіраўскі сюжэт, мастацкі кіраўнік тэатра Валянцін Елізар'еў, таксама прымае віншаванні: сёлета, як вядома, спаўняецца 30 гадоў яго творчай дзейнасці, і гэты юбілей будзе адмыслова адзначаны. А яшчэ рыхтуецца прэм'ера яго новай пастаноўкі — балета "Клеапатра" на музыку Вячаслава Кузняцова: так што на пачатку 2004 года з'явіцца новая нагода для віншаванняў — усяму тэатру...**

**С. Б.**

*НА ЗДЫМКУ: заслужаны артыст Беларусі І. АРТАМОНАЎ (Кален) і народная артыстка К. ФАДЗЕЕВА (Ліза) у спектаклі "Марная перасцярога".*

**ФОТА К. ДРОБАВА**



# ВІВАТ АНІМАЁЎКА!

***З 18 па 20 верасня ў Магілёве праходзіць VI Міжнародны фестываль анімацыйных фільмаў "Анімаёўка–2003" (арганізатары — Кінавідэапрадпрыемства "Позірк"). Сёлета ў фестывалі бяруць удзел 13 краін свету. Свае мульцікі ў Магілёве прадстаўляюць студыі анімацыйнага кіно "Майстар-фільм", "Шар", ВГИК г. Масква, "Млын" г. Санкт-Пецярбург, "Даука" г. Рыга, "Казахфильм" г. Алматы, "А-фільм" г. Екацярынбург, "Беларусьфільм" г. Мінск і некаторыя іншыя.***

У гэтым годзе беларускія аніматары шумліва і з гонарам святкуюць юбілей айчыннай мультыплікацыі. Таму ў рамках "Анімаёўкі-2003" былі паказаны ўсе апошнія анімацыйныя навінкі "Беларусьфільма" ("Пераацэнка каштоўнасцей" Т. Жыткоўскай, "Мядзведжая паслуга" А. Ленкіна, "Музыкант-чараўнік" А. Туровіч, "Песенька для канарэйкі" А. Пяткевіча, "Сястра і брат" І. Кадзюковай), а таксама лепшыя беларускія мульцікі розных гадоў.

Адзначым, што за трыццаць год на студыі была зроблена 101 анімацыйная стужка. Сёння ў штаце "Беларусьфільма" працуюць 23 аніматары, а штогод запускаюцца не больш за два мульцікі. Адны з самых найноўшых — анімацыйны фільм "Бегла мышаня па траве" Н. Хаткевіч (дэбют), а таксама мультсерыял "Рэакцыйная парася-4,5" А. Ленкіна. У далейшых планах нашых аніматараў — праца над мульцікам пра героя беларускіх казак Несцерку ("Прыгоды Несцеркі", рэж. І. Волчак), а таксама легендарную гераіню англійскага сярэднявечча лэдзі Гадзіву (над фільмам працуе прызнаны рэжысёр-аніматар І. Кадзюкова).

В. Б.



*НА ЗДЫМКУ: І. ВОЛЧАК — усмешка аніматара.*

ФОТА. В. СТРАЛКОЎСКАГА

# КОДАВЫЯ ЗНАКІ ВІКТАРА АЛЬШЭЎСКАГА

## З нагоды пяцідзесяцігоддзя мастака



Далёка не кожнаму беларускаму мастаку ўдаецца скласці ў сваёй творчасці знакавую сістэму, якая б яўна вылучала яго з творчага асяроддзя пазнавальнасцю кожнага асобнага сімвала, але пры гэтым пакідала пачуццё неспадзяванасці прачытання гэтых сімвалаў у новым творы. Кожны твор Віктара Альшэўскага становіцца для гледача нечаканай сустрэчай з рэальнасцю, створанай яго фантазіяй і развагамі пра сутнасць быцця. Мастак імкнецца данесці да нас і свае ўражанні ад шматлікіх падарожжаў, і моманты замілавання жаночай прыгажосцю, і непасрэднасцю паводзінаў дзіцяці, і роздумы пра жыццёвыя калізіі. Станаўленню такой складанай філасофскай сістэмы творчасці папярэднічалі гады мастакоўскіх пошукаў у міфалогіі старажытнага свету, рэлігійных сімвалаў, гісторыі народаў Еўропы і Азіі.

Віктару Альшэўскаму ўдалося стаць прадстаўніком новага мастацкага мыслення, якое ўключае ў сваё разуменне абагуленыя вобразы сусветнай культуры. Яго карціны — фрагменты гісторыі і сучаснасці, адарваныя ад глебы прасталінейнай рэальнасці, і гэта становіцца асновай своеасаблівай філасофіі мастака. Альшэўскі прапануе гледачу ўласны кодавы знак, які шмат разоў паўтораны ў розных работах, замацоўваецца ў свядомасці сталай аўтарскай пластыкай мастацкай мовы. Прадстаўленая ў розных культурных сітуацыях (а мастак актыўна выстаўляецца у Нарвегіі, Італіі, Германіі, Расіі, Беларусі, Францыі, Аўстрыі), паўсюль знакавая сістэма твораў Віктара Альшэўскага атрымлівае новае нечаканае гучанне і сэнсавую афарбоўку. Ідзе такое звыклае еўрапейскаму разуменню захаванне і перманентнае паўтарэнне адной і той жа вобразнай пабудовы, структуры мастацкага выяўлення, якая штораз набывае новую вастрыню і сэнс.

Радзіма мастака — жывапісныя мясціны Магілёўшчыны, якія выгадавалі і выдатнага пейзажыста Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, вызначылі і тонкае адчуванне Віктарам Альшэўскім прыгажосці. Гады студэнцтва на манументальным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута пад кіраўніцтвам народнага мастака Гаўрылы Вашчанкі навучылі абстрагавацца ад дробязяў, засяроджвацца на форме і пошуку пластычнасці мастацкай мовы.

Ужо першыя працы Віктара Альшэўскага карысталіся поспехам на ўсесаюзных маладзёжных выставах. Але шлях творчага развіцця вызначыла выстава сямі маладых мастакоў на праспекце Машэрава, 7, якая адбылася ў 1985 г. у выставачнай зале БелНДІНТІ. Дасюль памятаецца тая шокавая рэакцыя наведвальнікаў, якая суправаджала яе адкрыццё. Невыпадкова і тое, што моладзь абвінавацілі ў нацыяналізме і антысаветызме, хаця мастакі проста ўзнімалі на п'едэстал дзеячаў культуры і славутыя моманты нацыянальнай гісторыі. Віктар Альшэўскі прадставіў трыпціх "Успамін аб радзіме", напісаны да 500-годдзя Міколы Гусоўскага, карціну "Драматург і кампазітар", дзе ў творчай супольнасці намаляваў аўтараў першай беларускай оперы "Сялянка" Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і кампазітара Станіслава Манюшку, партрэт Максіма Багдановіча. Гэта быў для Віктара Альшэўскага этап засведчання сябе як майстра, які здольны абагульняць тэму, шукаць у шматфігурных кампазіцыях метафарычнасці агульнага гучання. З першых крокаў у творчасці ён жыў нацыянальнымі ідэямі, як і яго сябры, маладыя мастакі, якія ідэнтыфікавалі Беларусь як гістарычна адметную супольнасць у сусвеце.





Разам з пераломам свядомасці людзей у канцы васьмідзесятых гадоў змянялася і творчасць Віктара Альшэўскага. Чалавечыя фігуры на яго вялізных палотнах абстрагаваліся, усё больш аддалялася перспектыва, пакуль не ператварылася ў фонавую колеравасць. Усё менш было палотнаў, якія адштурхоўваліся непасрэдна ад рэальных падзеяў ці жывых натурных замалёвак.

Як пейзажыст Віктар Альшэўскі амаль невядомы гледачу. Нешматлікая колькасць яго краявідаў была напісана даўнавата, прывезена з падарожжаў па Югаславіі, па Ціхім акіяне, па Беларусі, Германіі і ўжо разышлася па прыватных зборах. Вобразная структура краявідаў мастака грунтуецца на асобных дэталях — дрэвах, караблях, камянях, вызначаецца адсутнасцю выяваў людзей і занатоўвае думку аб спрадвечнасці навакольных з'яваў, нязменнасці і грунтоўнасці некранутай прыроды.

А вось партрэтаваннем Віктар Альшэўскі *захапляўся* заўсёды. Мастак схоплівае сутнасць чалавека, ідзе ад эмацыянальнага ўражання, ад вобраза, які павінен хваляваць, кранаць, спыняць увагу. Адсюль — рухомыя, пластычныя жаночыя постаці, падкрэсленыя, а не схаваныя за адзеннем формы жаноцкасці. Тут прысутнічае *танчэзны флёр паэтычнасці*, які дадае кожнаму партрэту загадкавасці і прыцягальнасці. Мастак любіць пісаць і мужчынскія партрэты. Але там больш дакладнасці, многа яркіх каляровых плямаў, прысутнічае спасылка на прафесію, адзнака дзейнасці і характару. Асаблівую ўвагу мастак звяртае *на погляд чалавека*, яго вочы, на выраз твару, на рукі.

Віктар Альшэўскі з першых творчых крокаў імкнуўся да стварэння грунтоўных, манументальных вобразаў, неперагружаных дэталямі кампазіцый. У васьмідзесятых ён захапіўся ў дадатак міфалагічнымі сістэмамі розных народаў, распачаў цыкл твораў, пабудаваны на грэчаскай і рымскай міфалогіі ("Аўрора, альбо раніца ўжо наступіла", "Ікар, альбо лесвіца ўгору" і інш.). Пасля гадавой стажыроўкі ў Нарвегіі вобразы яго карцін яшчэ больш абстрагаваліся ад рэаліяў жыцця. Суровая паўночная краіна пакінула ў творчасці беларускага мастака адчуванне вечнасці, бясконцасці, як той шлях, на які ён выпраўляў сваіх герояў (карціны "Які ўстае", "Які ідзе"). З цягам часу творчасць Альшэўскага ўсё больш развіваліся ў бок знакавасці і метафарычнасці, якія, нарэшце, сталі ўласнай філасофіяй творцы.



Сёння адзін з найбольш значных для Віктара Альшэўскага сімвалаў — закаваны ў латы рыцар, які для яго вызначае і жорсткасць, і высакароднасць, і дыктат сілы. Рыцарскія вобразы сустракаюцца ў партрэтах, у сцэнах палявання, у міфалагічных кампазіцыях. Але мастак надае рыцарству нібыта двайстае разуменне. Большасць яго рыцараў не мае твараў, іх шлемы наглуха закрытыя. Гэта не проста абезабліччанасць чалавека з натоўпу. Апранутыя ў цяжкія даспехі, якія паблісквацюць ад гульні святла і ценю, рыцары здаюцца абяздушанымі рэчамі, адарванымі ад рэальнасці бягучага стагоддзя. Аднак менавіта праз гэту сярэднявечную атрыбутыку прасвечвае асабісты боль мастака, яго няпростыя разважанні пра месца сучасніка ў сённяшнім свеце.

Заходнія крытыкі стала адносяць Віктара Альшэўскага да сюррэалістаў. Сам мастак не згаджаецца, але і не супраціўляецца гэтым вызначэнням. Нават адну з карцін ён прысвяціў Сальвадору Далі, дзе на чырвоным фоне б'ецца сэрца вядомага майстра. У братоў Стругацкіх ёсць выдатнае вызначэнне навуковай фантастыкі — няўдалая спроба ўцёкаў ад рэальнасці. Гэта падыходзіць і да твораў Віктара Альшэўскага. *Знешне наш час аніякім* чынам не прысутнічае ў яго палотнах. Але ў кожнай карціне заключаны складаны нерв, пераменлівы настрой сучаснасці. І ад гэтага нікуды, ні ў якую іншую рэальнасць, ні ў якую іншую прастору не схавацца.

Кожная карціна Альшэўскага — загадка. Пустэльня і падарожны, які нясе на сваіх плячах храм. Заарканены кентаўр *за імгненне да падзення ў нейкую* яму-пастку. Бяззбройныя воіны, якія слепа ідуць праз залітую халодным месяцавым святлом раку. Ікар, які падае ўніз. Постаці і рэчы ўспрымаюцца *ірэальна, як зашыфраванае пасланне*, якое не счытваецца павярхоўна, а патрабуе душэўных намаганняў і філасофскай абстрагаванасці.

За апошнія дзесяць гадоў схільнасць мастака да выяўлення сваіх вобразаў праз сімвалы і алегорыі стала надзвычай выразнай. Ён старанна вывучаў і працягвае вывучаць шматлікія *міфалагічныя і філасофскія* сістэмы і іх сімвалічнае ўвасабленне. Адасабляючы фігуры ад рэальнасці з дапамогаю залатых пласцін, мастак надае сваёй знакавасці поле для існавання, *стварае сістэму па-за рэаліямі* жыцця, але настолькі трапяткую і блізкую гледачу, што яна становіцца рэальнасцю нібыта паралельнай нашаму разуменню.

Майстэрства Віктара Альшэўскага заключана ва ўменні пазбавіцца лішняга, што перашкаджае спасцігаць сутнасць рэчаў. Ён часта размяшчае асноўныя фігуры ў цэнтры карціны і прыглушае амаль да чыстага фону ўсё навокал. Фон становіцца той першаасновай, з якой нараджаецца персанаж, які сведчыць пра крохкасць, імгненнасць бягучага часу. Але самі выяўленыя на палатне фігуры і рэчы мастак прамалёўвае з вялікай дакладнасцю. Золата, якое стала абавязковым элементам твораў Альшэўскага ўжо некалькі апошніх гадоў, выкарыстоўваецца мастаком таксама невыпадкова. Гэты матэрыял нясе ў сабе цэлую гаму сімвалічных адценняў — ад сонечнага святла да адзнакі багацця. Але для Альшэўскага сімволіка золата найперш засноўваецца на духоўнай каштоўнасці, менавіта так трактавалася золата алхімікамі і антычнымі філосафамі. Золата — гэта сімвал усяго вышэйшага, вартага славы. Дадаючы залатыя ўстаўкі ў творы, часта ў выглядзе пласціны на асноўным фоне работы, мастак нібыта падзяляе рэальнасць, вылучае для нашага пільнага разгляду значэнне, якое вышэйшае за будзённае, найважнейшае для нас — пэўныя сімвалічныя і знакавыя коды.

Наталля ШАРАНГОВІЧ

# РУПЛІВЫ СЕЙБІТ

Пры самай старой дарозе, якая вядзе з Маладзечна на Крэва і мае адгалінаванні на Ашмяны і Вільню, прытулілася невялікая, але багатая на добрых людзей і славутыя падзеі мястэчка Лебедзева. Шмат навальнічных стагоддзяў прашумела над яго векавымі прысадамі, шмат слаўных і ганебных спраў адбылося на яго зямлі і ў бліжэйшых ваколіцах. Адсюль у шырокі свет навукі і асветы, часта насуперак сваім бліжнім, выпраўляліся дзесяткі, а можа, і сотні лепшых юнакоў і дзяўчат, каб, авалодаўшы ведамі, прынесці іх у курныя і занядбаныя хаты сваіх знявераных і абыякавых землякоў. Асабліва яскрава гэта праявілася ў нашым XX стагоддзі, тады, калі падымалася з каленяў Беларусь. Пра аднаго з такіх руплівіцаў і наш расказ.

Нарадзіўся Пётра Зяновіч у 1892 годзе ў сям'і малазямельнага селяніна. Бацька яго Станіслаў Зяновіч меў два гектары не самай лепшай зямлі, каня і дзве каровы. Сям'я складалася з васьмі душ: сам гаспадар, яго жонка, бацька гаспадара і пяцёра дзяцей. Пётра быў самы меншы. Калі маленькаму Пецю было паўтара годзіка, трагічна загінуў бацька, і сям'я засталася без свайго карміцеля. Увесь цяжар сялянскай працы лёг на плечы маці. Даводзіцца толькі здагадвацца, як цяжка было жанчыне трымаць гаспадарку і падымаць на ногі дзяцей, старэйшаму з якіх было толькі восем гадоў. Значна пазней у аўтабіяграфіі Пётра Зяновіч напіша: "Цяжка было маці-ўдаве пракарміць такую сям'ю і старога свёкра. Свайго хлеба не хапала. Трэба было хадзіць на падзённую работу да пана, за 20 капеек у дзень, каб хоць трохі накарміць дзяцей. У дадатак да гэтага ў 1900 годзе адбыўся пажар, які знішчыў усе пабудовы, жывы і мёртвы інвентар. Згарэў конь, карова і парасё".

Сям'я засталася толькі ў тым, у чым здолелі выбрацца з гарэўшага дома. Прыйшлося маці размяшчаць дзяцей па сваяках. Пётру, як самага малодшага ў сям'і, уладкавала за пастуха да суседа. Палову вясны, лета і часткова восень пасвіў гусей, свіней, кароў, а ўжо на зімовы перыяд наведваў школу. Калі споўнілася трынаццаць, скончыў пачатковую, а праз два гады — яшчэ і двухкласную пачатковую.

Маючы за плячыма такую-сякую адукацыю, вырашыў пашукаць шчасця ў Маладзечне. Пры дапамозе сваякоў уладкаваўся на завод па перагонцы спірту (рэктыфікацыйны), які знаходзіўся паблізу чыгуначнай станцыі. Але замест таго, каб навучацца слясарнай справе (такая была дамова), давялося яму чысціць "па цэлых тыднях і месяцах" паравыя катлы, паліць печы, цягаць попел, адным словам, выконваць самыя брудныя і цяжкія работы. Так працягвалася больш за год. У рэшце рэшт, гэта прымусіла хлопца кінуць такую "навуку" і вярнуцца дамоў.

Вось тут і паўстала пытанне: што рабіць далей? Яшчэ ў час працы на заводзе давялося яму пазнаёміцца з выхаванцамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. "Вельмі хацелася мне патрапіць у іхнюю сям'ю, але для гэтага патрэбныя былі сродкі, а ў маці маёй якраз іх і не было", — так пісаў Зяновіч у сваіх успамінах. Давялося папрасіцца на работу да мясцовага пана. Яму не адмовілі. Цэлае лета і восень прапрацаваў на землях памешчыка і да зімы ўдалося сабраць пятнаццаць рублёў, за якія купіў патрэбныя падручнікі, і пачаў рыхтавацца да паступлення. Пётра разумеў, што здаць экзамены і стаць навучэнцам — гэта яшчэ мала, трэба было так вучыцца, каб атрымоўваць дзяржаўную казённую стыпендыю. Цэлую зіму і вясну прасядзеў за кнігамі. І неяк вельмі хутка праляцелі зімовыя месяцы з шалёнымі завірухамі і траскучымі маразамі, з велізарнымі гурбамі паабапал дарогі. Адшумелі сваю песню вясёлыя ручайкі, вярнуліся з далёкага выраю птушкі, апрануліся ў зялёнае ўбранне дрэвы. Прыйшла пара стаяць перад прыёмнай камісіяй.

Паступаючых у семінарыю было больш за 350 чалавек. Здалі экзамены і былі прынятыя толькі сорак, з іх чатыры пачалі атрымоўваць казённую стыпендыю. Адным з такіх шчасліўцаў быў Пятро Станіслававіч Зяновіч. Гэта адбылося ў 1910 годзе.

Якой жа ўбачыў сваю новую alma-mater П.Зяновіч у той далёкі і для яго лёсаносны год? Звернемся да ўспамінаў сучаснікаў. Аднакласнік Зяновіча Іван Адамавіч Міхалёнак успамінаў: "Вучэбны корпус уяўляў сабой масіўны цагляны двухпавярховы будынак у выглядзе літары "П" з хатняй царквой. Тры вялікія аднапавярховыя драўляныя карпусы адводзіліся пад інтэрнаты семінарыстаў... Асобна стаяў вялікі драўляны будынак пачатковай школы. Увесь гэты комплекс будынкаў быў абнесены з вуліцы тоўстай цаглянай сцяной. З тылу да комплексу семінарскіх будынкаў прымыкаў стары парк з векавымі лісцёвымі дрэвамі — ліпай, дубам, клёнам, ясенем і таполяй. За паркам і агародам быў бачны семінарскі луг..." Семінарысты вывучалі Закон Божы, гісторыю праваслаўнай царквы, заалогію, батаніку, арыфметыку, геаметрыю, царкоўнаславянскую і расійскую мовы, літаратуру, методыку выкладання, дыдактыку, псіхалогію ды іншыя прадметы. У той час дырэктарам быў Апанас Вінцэсевіч Ярушэвіч — вельмі адукаваны педагог і выдатны чалавек. З выкладчыкамі Зяновічу таксама пашанцавала. А сярод іх: А.Я. Траненкаў (прыродазнаўства), І.І. Рэйнскі (руская мова), В.К. Зайцаў (маляванне), А.С. Багдановіч (матэматыка), С.Дз. Вігілёў (гісторыя, геаграфія), І.Д. Ганчарэнка (спевы, кіраўнік хору) ды іншыя. На ўсё жыццё захаваў Пётра любоў і павагу да гэтых людзей. Але асаблівай пашанай і сімпатыяй карыстаўся ў семінарыстаў дырэктар. Менавіта ён у гэтай наскрозь афіцыйнай навучальнай установе стараўся прышчапіць сваім выхаванцам прыхільнасць да сваёй роднай беларускай песні, мовы, гісторыі. Дзякуючы яму дзесяткі юнакоў потым увальюцца ў беларускі рух, станцуць яго правадырамі, ратаямі, сейбітамі. Сярод іх будзе і Пётра Зяновіч. Па ўспамінаў яго родных, на апошнім курсе Пётра па-сапраўднаму пасябраваў з маладым семінарыстам, які толькі пачынаў вучобу і якога ведалі як простага і задушэўнага хлопца з такім мілым прозвішчам Кудзелька, які з цягам часу стане вядомым беларускім паэтам Міхасём Чаротам. Праўда, хутка давялося расстацца. Але яны яшчэ сустрэліся — у Мінску ў векапомным 1918 годзе, калі па пільнай справе зазірнуў Зяновіч у "Беларускую хатку" і ўбачыў там у стройным хоры пад кіраўніцтвам В.Тэраўскага ў вышыванай кашулі юнака з непаслухмяным чубам і пазнаў яго...

Але гэта было значна пазней. А тады ішоў 1914 год і трэба было здаваць выпускныя экзамены. У жніўні месяцы Пётр Зяновіч атрымаў званне народнага настаўніка. "З тых дзён і па сённяшні час працую на ніве народнай адукацыі", — напісаў Зяновіч у аўтабіяграфіі. Вельмі хацелася вучыцца далей, атрымаць вышэйшую адукацыю, але быў накіраваны настаўнікам Мейшагольскага двухкласнага пачатковага вучылішча Віленскай губерніі. Здавалася, што гэта часова, ненадоўга, але атрымалася інакш. Пачалася Першая сусветная вайна. У лютым 1915 года быў прызваны на вайсковую службу і накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Пасля яе заканчэння па лістапад 17-га знаходзіўся на Паўночным фронце пад Рыгай. Салдаты яго любілі — заўсёды ўсмешлівага, добразычлівага, веселуна, які стараўся да кожнага знайсці падыход і агульную мову. Пасля дэмабілізацыі вяртаецца на Радзіму. Жыве і працуе ў родным мястэчку настаўнікам школы, а ў 1918 – 19 г.г. — загадчыкам Лекарэўскага народнага вучылішча Мінскага павета. Але цягнула дамоў. У лістападзе таго ж года вяртаецца ў Лебедзева і пачынае рабіць захады наконт адкрыцця беларускай школы. Спачатку ўсё ішло належным чынам: было знойдзена памяшканне, адрамантавана, сабрана патрэбная колькасць вучняў. Пачаліся першыя заняткі. Але беларуская школа была бяльмом на воку для польскіх акупацыйных уладаў. Пачалася інтрыгі... Вось як пісала пра гэта беларуская газета "Наша думка" ад 8 красавіка 1921 года: "У нашым мястэчку адчынена ў лістападзе 1920 года беларуская двухкласовая школа, а ў студні 1921 польская... У школьным будынку адзін маленькі пакоік займае пад кватэру вучыцель беларускай школы. Пані кіраўніца "Стражы Крэсовай" у Вялейскім павеце п.Невяроўская задалася мэтаю выжыць адтуль гэтага вучыцеля з сям'ёй. Яна дабілася ад п.Старосты Вялейскага павету распараджэння выселіць з кватэры сям'ю вучыцеля праз начальніка Маладэчанскага раёну. Ні заява вучыцеля, што ў мястэчку немагчыма знайсці кватэру, бо ў мястэчку стаіць войска, ні довады на правы займаць гэтую кватэру, як вучыцелю мяйсцовае школы — нічога не памагае. Усюды адзін адказ: "Tu będzie polska szkola". У хуткім часе беларуская школа была зачынена, а настаўнік застаўся без працы. Але гэта мала хвалявала польскіх акупантаў.





У тым жа 1920 годзе Пётра Зяновіч паступае на Віленскія беларускія настаўніцкія курсы, якія былі створаны з мэтай перападрыхтоўкі былых выкладчыкаў расійскіх школ. Там настаўнікі засвойвалі азы беларусазнаўства, якія ўключалі ў сябе веды па гісторыі, геаграфіі Беларусі, мове, літаратуры. Дырэктарам курсаў быў выдатны беларускі дзеяч Клаўдзіюш Душ-Душэўскі, а выкладчыкамі — Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Міхаіл Кахановіч, Янка Станкевіч... З апошнім скляліся ў Пятра Зяновіча добрыя прыяцельскія стасункі, што пацвярджае, дарэчы, кніжка Янкі Станкевіча "Беларускі правапіс", якая захавалася ў сваякоў Пётры Зяновіча з дарчым надпісам: "Сябру Пятру Зяновічу ад аўтара. Янка Станкевіч. Вільня, 1921 г."

Захаваліся і іншыя цікавыя дакументы з той пары. Прыкладам, на здымку, змешчаным у "Ілюстраванай храналогіі гісторыі Беларусі", выдадзенай у Мінску ў 1997 годзе, можна ўбачыць у трэцім радзе знізу таксама Пётру Зяновіча, побач, праз аднаго чалавека, сядзіць Язэп Драздовіч. І гэта, відаць, невыпадкова. Яны сябравалі. Сваякі Зяновіча расказвалі, што ў яго кватэры вісела некалькі вельмі цікавых карцін "з казачным сюжэтам", як яны гавораць, але дзе тыя карціны — ніхто ўжо не ведае. Адзінае, што яны добра памятаюць, гэта тое, што Пётра Станіслававіч часта паўтараў: "Гэтыя абразы намаляваў мой сябра Юзік Драздовіч, з якім я вучыўся на Курсах". Акрамя Драздовіча, сябраваў з В.Азерскім. Менавіта з апошнім Пётра Зяновіч шмат дапамагаў Сымону Рак-Міхайлоўскаму ў станаўленні Барунскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Пра гэта вельмі хораша напісана ў "Беларускім календары" за 1922 год, выдадзеным у Вільні: "...Узімку была адчынена ў Барунах Ашмянскага павету Беларуская Вучыцельская Семінарыя, пры закладзінах якой шмат паклаў працы дырэктар яе грам. С.Рак-Міхайлоўскі. Памагалі яму актыўна вуч. П.Зяновіч і В.Азёрскі". Калі чытаеш такія словы, то хочацца ад усёй душы, ад усяго сэрца пакланіцца тым ахвярным працаўнікам беларускай асветы, якія працавалі не за грошы, а за вялікую ідэю, для якіх "Беларусь не прафесія, а прыгожая мара, змест нашага жыцця". Але, на вялікі жаль, гэтая семінарыя праіснавала кароткі адрэзак часу. Восенню 1921 года яе зачынілі, і на яе аснове была арганізавана дзяржаўная польская настаўніцкая семінарыя. Зяновіч вяртаецца на радзіму. Ізноў робіць хадайніцтва, каб адчыніць родную беларускую школу ў м. Лебедзева, але безвынікова, польскія ўлады такога дазволу не даюць. А ў студзені 22-га ў прымусовым парадку ўсе настаўнікі беларускіх і былых расійскіх школ адпраўляюцца на польскія настаўніцкія курсы ў Кракаў. Сярод тых, хто ад'язджаў, быў і Пётра Зяновіч.

Можна толькі меркаваць, што рабілася ў душах тых першых настаўнікаў-патрыётаў, якія так хацелі падняць на небывалую вышыню славу сваёй Бацькаўшчыны і якія цудоўна разумелі, што толькі родная школа можа выхаваць сапраўдных сыноў і дачок сваёй зямлі. Вярнуўшыся на Беларусь, Зяновіч працягваў працаваць настаўнікам, толькі ўжо польскіх школ. Нейкі час быў загадчыкам школы ў вёсцы Кузьмічы на Вілейшчыне, дырэктарам у Залессі на Смаргоншчыне, але нават такое становішча не задавальняла польскія ўлады, бо настаўнік быў "праклятым беларусін". І таму ў лістападзе 30-га яго адправілі на працу ў раёны Цэнтральнай Польшчы, адкуль ён вярнуўся толькі праз два гады. У аўтабіяграфіі пра гэты перыяд ён напісаў: "Пасля страшэнных странняў здолеў вярнуцца на Радзіму, але ўжо не ў Залессе, а ў вёску Кавалі Смаргонскага раёна і там прапрацаваў у якасці дырэктара да прыходу Чырвонай Арміі". Затым была праца ў якасці завуча ў Смаргонскай расійскай школе, дзе прарабіў да пачатку вайны.

У час нямецкай акупацыі жыў у Лебедзеве. Пасля вызвалення ў канцы лістапада 1944 года быў арыштаваны. Пачаліся бясконцыя допыты, здзекі. Потым быў суд, які прысудзіў яго да зняволення. Загінуў выдатны беларускі педагог, патрыёт і змагар у 1947 годзе на далёкай Калыме...

Я не ведаю, як для каго, а для мяне верш Янкі Купалы "А хто там ідзе?" не нейкі там абстрактны вершаваны твор, а напоўнены канкрэтным зместам гімн — дзвіз нашага Адраджэння. Ідуць там не нейкія безабліччныя людзі, а змагары, патрыёты, сейбіты. Вось, здаецца, адчуўшы саму непрадказальнасць нашага часу, ідуць, спяшаюцца нам на дапамогу карэктныя і разумныя Мікалай Грышкевіч, шляхетныя і адукаваны Адам Більдзюкевіч, набожны і адначасова патрыятычны айцец Віктар Шутовіч, працавіты і добры Юзя Шчупак, абаяльны і шчыры Міхась Забэйда-Суміцкі, цвёрды ў пераканнях Пётра Зяновіч... Яны — нашы землякі, тыя, хто ў сілу свайго таленту, магчымасцяў ствараў неўміручы гмах, вялікі дом, імя якому — Беларуская культура. Памятайма пра іх!

**Міхась КАЗЛОЎСКІ**

***НА ЗДЫМКАХ: П. ЗЯНОВІЧ са сваёй каханай; сям'я П. ЗЯНОВІЧА.***

**ДАНІНА ПАМЯЦІ**

# ШТО ДВОЙЧЫ СТАЛА СЛОВАМ

Таленавіты і адукаваны, але, як гэта зазвычай бывае, сціплы і самотны паэт Гадулька — адна з "уклееных", ды адна з самых яркіх, пакуль што не ўсім вядомая жыццяпісная і творчая старонка Васіля Сахарчука. Зрэшты, хто ў чыё жыццё ўвайшоў больш, казаць не бяруся: яны, аднойчы сустрэўшыся, сталі братамі па духу, існымі аднадумцамі ў слугаванні паэзіі, роднаму Слову. Гэта было на самым пачатку 1980-х...

Пра саўгаснага пастуха, які піша вершы, першаму вяскоўцы паведамілі мне, тадышняму, як і Васіль Сахарчук, жабінкаўскаму журналісту, хіба што з крыху большым стажам; у дадатак я лічыўся кіраўніком раённага літаб'яднання. Навіна зацікавіла, аднак росшук дзівака, які не толькі выпівае, а і цешыць вершамі рэдкіх хаўруснікаў — мне "падалі" яго так, — я адклаў да зручнага выпадку: буду з рэдакцыйным заданнем у ягоных мясцінах, тады і зайду (выпадак не надарыўся — я неўзабаве перайшоў на тэлестудыю ў Брэст).

Зусім інакш паставіўся да загадкавага паэта Васіль. Інтуіцыя, ды і логіка, і дабрыня беспамылкова падказалі яму: калі чалавек дасюль не аб'явіўся сам, не назаляе рэдакцыі сваімі вершамі, дык ён, мусіць жа, не абы-хто, не шарачковы графаман, якіх у раёне было нямала і чые творы мы ўтрох (трэці — Расціслаў Бензярук) "падцягвалі за вушы". Можна было, вядома, і памыліцца, але ж ці мала ў нашай літаратуры адваротных памылак?..

Давер паміж двума Васілямі ўсталяваўся адразу. Ці не з першай жа сустрэчы Сахарчук прывёз тузін вершаў Гадулькі — вершаў патаемных, далёкіх ад тых свавольных і лёгкіх, што чыталіся аўтарам у "кумпаніях". І неадкладна надрукаваў іх у раёнцы. Памятаю, з якім шчырым захапленнем ён казаў пра іх мне, цытаваў радкі на памяць, абмалёўваў асобу аўтара — ціхмянага, праставатага на першы погляд, а насамрэч глыбокага, дасведчанага і ў роднай, і ў замежных літаратурах, балазе ведаў некалькі моў, перакладаў, у прыватнасці, з французскай, спрабаваў нават пісаць на ёй. "І гэта во, у пяці вярстах ад нас, у Федзькавічах!" — скрухаваў Васіль, а закончыў сваім характэрным — а-ай! Гэтак расцаніў абставіны, у якіх існаваў паэт: уласнай сям"і не меў, даглядаў хворую маці (яна была разбітая паралюшам і хутка памерла), працаваў там, куды пасылалі, ад самоты часта выпіваў, што пакрысе ўвайшло ў звычку, у прыкрую залежнасць...

Новы сябар, чулы і далікатны Васіль Сахарчук, змусіў яго — няхай не на вельмі доўгі час — выйсці з такога існавання, адкрыцца для чытачоў і літаратараў: запрашаў на пасяджэнні ў рэдакцыі, на сумесныя выступленні, настаяў, каб абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў накіравала яго на нараду ў "Іспач". Творчасць не вельмі маладога і дасюль невядомага федзькавіцкага паэта рэспубліканская нарада ўхваліла адназначна, водгукі я чуў і ад бязвусых, і ад сівавусых непасрэдна. Некаторыя яе ўдзельнікі завязвалі з ім ліставанне, што таксама асвяжала, узбадзёрвала яго. Праўда, ці моцна зацікавіліся ім сталічныя рэдактары, не скажу. Схілюся да адмоўнага адказу. Ды і без таго акрыленага Васіля Гадульку іхняя ўвага ці няўвага, здаецца, мала абыходзіла. Вось і пасля выступлення на "маім" тэлебачанні ён заявіў, што сюды, у студыю, нага яго ступіла першы і апошні раз. Шырокая публічнасць скоўвала яго. Яму трэба была адзінота, яму дастаткова было Васіля Сахарчука і раёнкі, дзе Васіль працаваў і друкаваў яго гэтулькі, што выклікаў нараканні рэдактара і супрацоўнікаў газеты.

Не было, бадай, тыдня, каб сябры не бачыліся. Дабіраліся адзін да аднаго то на спадарожных машынах, то на ровары, а то і пехатою. Згадваю, пры першай нашай сустрэчы ўтрох я здзівіўся, што Сахарчук, на нямала гадоў маладзейшы за Гадульку, заве яго зазвычай Васільком. Але гэта было не панібрацтва, не ўзвышэнне аднаго над другім. Яны сябравалі на роўных, і я зноў і зноў чуў захопленыя словы Сахарчука пра новыя сябравы вершы. Васіль-"апякун" прызнаваўся, што знаходзіцца пад магіяй шмат якіх вершаў В.Гадулькі — простых і важкіх адначасова, зграбных, адпаліраваных і ўсё роўна натуральных, нязмушаных, без відавочнага "художественного искусства" (выслоўе не маё, чуў яго ад мастакоў). Урэшце, сябрамі па духу — светапоглядным, патрыятычным, творчым — яны былі яшчэ да таго, як сустрэліся.

*...Непаўторны для зямной істоты,*
*час цвіцення — лічаныя дні,*
*і пад гоман маладой лістоты*
*леташняй не ўспомняць карані...*

*...А плынь жыцця той конавай пячаткі*
*не прызнае і б'ецца ў берагі,*
*і гэтаксама, як і мы, нашчадкі*
*вяртацца будуць на свае кругі...*

Дзе чыя страфа? Не вельмі дасведчанаму ў іхняй творчасці і праўда цяжка вызначыць, гэтак па-свойску паяднаны строфы думкаю, настроем, інтанацыйным ладам.

Няма ніякіх падстаў казаць і пра тое, нібыта Васіль Сахарчук аберагаў сваё "апякунства", замыкаў адкрытага ім паэта на "местачковым" — у сэнсе друку — узроўні. Наадварот! Рассылаў ягоныя вершы сам у часопісы, пісаў пра яго, дамаўляўся з "Бібліятэкай "Маладосці" пра выданне хаця б невялікай кніжкі В.Гадулькі. І нават больш за гэта! Апошнія гады Сахарчук вымушаны быў забіраць сябравы рукапісы да сябе літаральна сілком, часам ратаваць іх з полымя грубкі, вымагаць ад аўтара перазапісваць спаленае па памяці і — самому збіраць, упарадкоўваць ягоныя вершы і паэмы ў зборнік "Кропелька сонца", названы самім жа, паводле аўтарскага радка "хай кропелькай сонца згублюся ў траве".

Чарговага крызісу хранічнай немачы, выклiканага найперш пакутлівым каханнем да замужняй жанчыны, Васіль Гадулька пераадолець не змог. Ды і не хацеў гэтага рабіць, прынамсі, і ў тую, апошнюю, ноч лекі на зэдліку каля ложка засталіся не кранутыя. Бездапаможныя ў такіх выпадках і самыя адданыя сябры. Між тым Васіль Сахарчук моцна і востра перажываў страту, і мо з таго нашмат балючай, што добра ведаў калізіі нешчаслівага і трагічнага кахання. Яны ў хуткім часе леглі ў аснову лірыка-філасофскай ягонай паэмы-дыялога "Развітанне" (надрукавана ў пятым нумары часопіса "Крыніца" за 1998 год).

Звыкла, да трывіяльнасці, сцвярджаем: каханне перамагло смерць. І герой, і аўтар паэмы з гэтым не зусім згодныя. Ёсць нешта вышэйшае і за смерць, і за каханне. Для сапраўдных паэтаў — гэта Паэзія.

*І ты, каханая, не хмур чало,*
*казаў, кажу і паўтару нанова:*
*няма існей таго, што адышло,*
*няма жывей таго, што стала словам.*

Таму не было мне дзіўна, што В.Сахарчук рупіўся канчаткова ўпарадкаваць і выдаць зборнік паэзіі В.Гадулькі як мага хутчэй — раней, чым з'явіцца надмагільны помнік. На жаль, не атрымалася. Ні тады, ні пазней. А час, як сухі пясок, імкліва ссыпаўся ў нябыт і з-пад яго ўласных ног. Пакуль Васіль ні ўзяў яго аднойчы ды абрынуў у бездань сам... Я казаў: сябры, браты па духу, аказалася ж, і па лёсе — таксама.

І "Кропелька сонца" Васіля Гадулькі, і новы зборнік Васіля Сахарчука "Мой вечны бор" цяпер аднолькава ляжаць маўклівымі пасмяротнымі камянямі — адзін у брэсцкім прыватным, другі ў мінскім дзяржаўным выдавецтвах, і пісьмёны з іх могуць пакуль што счытваць адзінкі. Але няма сумнення: пакуль што. Бо "няма жывей таго, што стала словам".

**Алесь КАСКО**

# ПАМІЖ ЗМРОКАМ БУДЗЁННАСЦІ І СВЯТЛОМ НЕДАСЯЖНЫХ ПАМКНЕННЯЎ

Спякотны чэрвень 1978 года. Невялічкая вайсковая часць каля Гарадзішча, што пад Мінскам. Сюды з усёй рэспублікі звезлі да сотні мужчын розных узростаў на зборы. Сярод жабінкаўчан я быў самы маладзейшы. Апрануўшы старую вайсковую форму, хадзілі ў нарады, на заняткі, зрэдку практыкаваліся: наладжвалі сувязь паміж умоўнымі пунктамі (амаль усе мы былі радыстамі). Вольнага часу ў "партызан" хапала, таму бавілі яго па-рознаму: нехта гуляў у карты, кагосьці цікавіў гармонік, а хто весяліўся за пляшкай, збегаўшы ў бліжэйшую вёску. Сярод гэтай публікі нічым пералічаным не захапляўся мужчына гадоў трыццаці — трымаўся найдалей ад гаманлівых кампаній, часцей, лежачы ў палатцы, чытаў кнігу. Хутка па лагеры пайшла чутка, што нейкі дзівак чытае раман на французкай мове. Нашы палаткі стаялі побач, таму неўзабаве мы пазнаёміліся. Васіль, мой новы знаёмы, сапраўды захапляўся замежнай мовай. Быў нешматслоўны, але па просьбе аматараў гумару чытаў напісаныя экспромтам чатырохрадкоўі на любую "партызанскую" дзею...

Нудны месяц збораў праляцеў і мы раз'ехаліся. Я — у Жабінку, Васіль — у свае Федзькавічы, што побач...

У сярэдзіне 80-х у літаб'яднанне "Плынь" пры раённай газеце "Сельская праўда", якім кіраваў да апошніх дзён жыцця паэт Васіль Сахарчук, уліваліся новыя і новыя імёны. Я захапляўся аднолькава і паэзіяй і фатаграфіяй.

Васіль у той час вельмі многа пісаў, таму пасля работы, калі мы заставаліся ў рэдакцыі, ён любіў чытаць свае новыя вершы, іншы раз раскрываў чарговую літстаронку, што выйшла ў свет і казаў: "Чуў, нібыта ў Пятровічах жыве невядомы паэт, але пошукі аказаліся марнымі — у вёсцы яго ніхто не ведае".

Аднойчы ў рэдакцыю раёнкі завітала дырэктарка Пятровіцкага сельскага Дома культуры Раіса Шпакава і перадала некалькі аркушаў паперы, спісаных акуратным вучнёўскім почыркам.

— Гэта вершы Гадулькі, — сказала, — сам ён саромеецца іх паказваць...

Высветлілася, што Васіль Гадулька, якога шукаў кіраўнік літаб'яднання, жыве ў Федзькавічах, а калі мы сустрэліся з ім, я адразу ўспомніў нашу сумесную з ім "партызанку": "Гэта ж той самы Васіль, з французскім раманам пад пахай!.."

Рэдакцыю ён наведваў нячаста. Заўжды прыходзіў пешкам (з-за сціпласці, іншы раз з-за адсутнасці грошай ад грамадскага транспарту адмаўляўся).

Невысокая хударлявая постаць. Перш чым адчыніць дзверы ў рэдакцыю, ён доўга выцірае ногі, пасля заходзіць, трохі прысаромлена і неяк вуглавата, але заўсёды з прыязнай усмешкай вітаецца, і, нібы апраўдваючыся, прамаўляе: "Завітаў на хвілінку, вершы прынёс..." Сахарчук адразу ж іх прачытваў, смакуючы, часта ўголас.

Аўтар жа, колькі памятаю, заўжды гаварыў, што цэніць свае вершы невысока, піша для сябе. І ў рэдакцыю іх прыносіў хутчэй за ўсё з-за павагі да Васіля Сахарчука і ягоных настойлівых просьб.

Наш пачастунак (з нагоды свята, чыйго-небудзь юбілею ці проста пад настрой куплялі бутэльку віна) Гадулька прымаў таксама стрымана, сарамліва, але не адмаўляўся. За шклянкай завязвалася больш шчырая, даверлівая гаворка...

На жаль, яму не ўдалося ажыццявіць ніводнай са сваіх мар, якімі ён, па сутнасці, і жыў. Замест іх здзяйснення жыццё высцілала дарогу горкімі і балючымі стратамі. Спачатку страціў брата, пасля каханне, бацьку, маці — і застаўся адзін, але мужна працягваў несці свой крыж да апошніх дзён.

Зразумела, нейкую падтрымку Васіль адчуваў з боку рэдакцыі (не так матэрыяльную ў выглядзе ганарараў за вершы, як маральную). Памятаю, мы ледзьве з Васілём Сахарчуком угаварылі яго паехаць на рэспубліканскую нараду маладых аўтараў у Дом творчасці "Іспач"...

Трапіўшы ў паласу расчараванняў (якраз памерла схварэлая маці, якую доўга выходжваў), з адчаю знішчыў усё напісанае ў агні. Потым адумаўся, па памяці аднавіў большасць спаленых вершаў. Але з-за сціпласці і поўнай адсутнасці самалюбства вершы друкаваць не збіраўся...

Маючы надзвычай мяккі характар, вельмі чыстую душу, а да ўсяго нехарактэрнае для рукаробнай вёскі захапленне нерукатворнай паэзіяй, нават для родных людзей быў белай варонай ці, проста кажучы, дзіваком. Ён жа гэта ўспрымаў з іроніяй. З вершамі ў друк, дарэчы, Васіль выйшаў на саракавым годзе жыцця. Лёс пасля гэтага, бадай, ужо неспадзяванага ім узлёту адпусціў яму ўсяго толькі восем гадоў...

...Перагледзеў уласны фотаархіў і не знайшоў яго здымкаў. Іх і было не багата, бо сфатаграфавацца Васіля Гадульку ўпрасіў толькі адзін раз, дый тыя яго фотакарткі параздаваў па рэдакцыях яшчэ падчас яго жыцця.

Добра, што захаваліся хоць гэтыя два негатывы, якія вам і дасылаю.

**Аляксей ГАНЧУК,**
**былы фотакарэспандэнт**
**газеты "Сельская праўда"**

г.Жабінка

**Супрацоўнікі кафедры беларускай літаратуры XX ст. філфака БДУ выказваюць свае шчырыя спачуванні Янку Брылю з прычыны смерці жонкі, Ніны Міхайлаўны.**

# У ХАЦЕ ПАЭТА

Васіль Сахарчук сказаў мне ў Жабінцы: "Непадалёк, у Федзькавічах, жыве паэт. Жыве цяжка, але дыхае і, час ад часу, выдыхае з сябе паэзію..."

"Калегу трэба адведаць", — заныла маё нутро...

Старая, яшчэ крэпкая хата ля грымучай аўтастрады Брэст-Масква, у якой немагчыма заснуць не толькі "знерваванаму" творцу, а нават здароваму мужыку...

Страха ўся ў снезе. Да ганку ніякіх слядоў. І на дзвярах няма замка. Пракладваю сцежку... У сенцах адчыняю дзверы ў хату. Там стаіць дым ад напаленага тытуню. І — нікога. А дзе ж курэц?..

Пасярэдзіне — задымленая грубка. Справа ля сцяны — ложак. На ім — гурба лахманоў. Зверху — рудое падранае футра.

Злева, ля вакна, непрыбраны стол. На ім — вялізная чорная патэльня, пустая. Побач — з паўбуханкі хлеба, не кроенага нажом, а ламана-шчыпанага. І — сухое лісце тытуню...

Я адчуў яго вока. Рашуча зіркаю ўправа, на ложак: з-пад футра свеціцца яно... А другое? Асцярожна там, на ложку, у лахманах пад футрам нехта варушыцца-рухаецца... Высвечваецца другое вока. Разам яны, вочы, дзівяцца: хто тут?

І я кажу: "Васіль!"

Ён слаба ссоўвае з сябе футра, сядае на край ложка, ціха пытаецца: "Хто вы?"

Называюся.

Васіль заўсміхаўся, устаў з ложка, я падышоў да яго, мы абняліся.

І раптам ён ссамотнеў. Я зразумеў яго: першая сустрэча, і трэба ж яе неяк адзначыць. Дастаю з кішэні бутэльку віна, "чарніла"...

(Гэта быў цяжкі час для застолляў, і мужыцкіх "завугопляў". Гарбачоў змагаўся з п'янствам. Гарэлка, віно — толькі па спісах. Дый цыгарэты — таксама. І пайшло — самагонства, нейкі спірт на перонах, самасад на агародах...)

Мы выпілі таго віна, ім жа і "закусілі"...

Васіль быў вельмі худы. І, як казаў Сахарчук, хворы на ўсе хваробы.

Амаль нічога не казаў. Глядзеў на мяне, цёпла ўсміхаўся. Але я бачыў: усмешка самотная...

Ён тады працаваў у саўгасе вартаўніком... дасканала валодаючы нямецкай і разумеючы некалькі іншых еўрапейскіх моў...

Віно скончылася. А што з тае пляшкі на двух ...голікаў?! Нешта яшчэ нашкраблі, і Васіль, ужо крыху падбадзёраны, "здаравейшы", пайшоў у краму. Хутка вярнуўся — і выставіў на стол ажно тры... флаконы адэкалона. Багатыя мы! І — хлеб на стале. І — цыбуліну знайшоў Васіль. А яшчэ — сала, цёмна-жоўтае, прапахлае драўлянскай старажытнасцю...

Пад такую старажытнасць і адэкалон пайшоў. Тым больш — савецкі, насамрэч — прапахлы парфумай спірт не горшай якасці.

Я не прасіў яго што-небудзь пачытаць. Ведаў: ён піша, зрэдку паказвае напісанае Сахарчуку, а той, тонка выбіваючы паэзію, калі-нікалі "прабівае" Гадульку ў райгазету. (Потым, калі ўжо Гадулькі не стала, Сахарчук настойліва і беспаспяхова прабіваў яго ў "цэнтр". Добрым словам калісьці пра паэта азваўся быў Рыгор Барадулін... Але...)

Так, самотныя вочы — такая ж і паэзія. "Угледзьцеся" ў яе. У ёй — душа ці не ўсяго "гадулькаўскага" пакалення — пакалення выстылага на халодных раздарожжах...

Мы развіталіся з ім на заснежаным падворку. Зноў трэба было пратоптваць сабе дарогу... І я пацяху-памалу, намацваючы ў сумётах сцежку, пачаў выбірацца адтуль. А ён — застаўся...

**Мікола КУПРЭЕЎ**

---

•

Рыхтуючы матэрыялы са спадчыны малавядомага пакуль паэта Васіля Гадулькі, якія патрапілі да мяне з хатніх шуфлядаў нябожчыка Васіля Сахарчука, я пажаліўся прысутнаму ў маім лімаўскім пакоі Віктару Гардзею, рэдактару аддзела паэзіі цяперашняга часопіса "Маладосць", што вось, маўляў, памёр адзінока на Берасцейшчыне такі таленавіты чалавек, а ўласнай кніжачкі так і не дачакаўся...

— Дык ёсць у мяне гэтая кніжачка...

— Як гэта?!

— Рукапіс я маю на ўвазе...

— А дзе ён у цябе?

— Ды тут, ляжыць недзе ў рэдакцыйнай шафе...

І напраўду, праз якіх дзесяць хвілін прынёс мне Віктар Канстанцінавіч сціплую шэрую кардонную папку, на якой было напісана рукой аўтара: "Васіль Гадулька. Кропелька сонца. Вершы. 1993г.". А наверсе ў папцы — заказное пісьмо ад Васіля Сахарчука з Жабінкі з лістом да рэдактара і прадмовай да будучай кніжкі свайго земляка, якая называлася "Між змрокам і святлом" (у рэшце рэшт, яна была выдрукавана ў № 9 часопіса "Полымя" за 1998 год)...

Вось што было ў тым — ужо другім! — лісце да Г.В.Далідовіча.

*"Шаноўны сп. рэдактар!*

*На пачатку мінулага года я даслаў Вам рукапіс вершаў майго земляка Васіля Гадулькі, які неўзабаве раптоўна памёр, таму пра лёс яго па сутнасці няма каму пакапаціцца. Рукапіс гэты, як я разумею, покуль ходу не атрымаў, але, спадзяюся, атрымае.*

*Мне прапаноўвалі перадаць яго ў выдавецтва "Мастацкая літаратура", але ж там ён яшчэ праляжыць гадоў тры, таму ўскладваю ўсе надзеі на бібліятэчку "Маладосці". Як і абяцаў, дасылаю прадмову да "Кропелькі сонца" Васіля Гадулькі. Магчыма, яна вельмі доўгая, але карацей сказаць пра гэтага паэта з Боскай ласкі не мог.*

*Напрыканцы жніўня ці напачатку верасня мяркую прыслаць Вам некалькі паэм, вянок санетаў і пару дзесяткаў вершаў, знойдзеных у ягоным "архіве". Было б вельмі добра дадаць іх у рукапіс раздзелам "З архіва паэта".*

*Я ведаю, што аб'ём паэтычных зборнікаў у бібліятэчцы "Маладосці" абмежаваны, не перавышае 1,8-2 аркушы, але ж з кожнага правіла ёсць выключэнні. Ці нельга такое выключэнне зрабіць для Васіля Гадулькі і выдаць яго, скажам, так, як выходзяць зборнікі прозы ў Вашай бібліятэчцы ці дадаць хоць адзін аркуш?*

*Такому Паэту мы абавязаны аддаць належнае. Ён нічога не меў пры жыцці, дык давайце зробім усё хоць пасля яго смерці.*

*З павагай — Васіль Сахарчук.*

*12 жніўня 1994г."*

Наіўны Васіль... Гэты зборнік да сённяшняга дня так і не выдадзены. (Больш за тое, Васіль Гадулька чамусьці не прадстаўлены і ў найноўшай "незалежнай" "Анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя" Міхася Скоблы. Але тут здзіўляцца якраз няма чаму. Усё ж гэта прыватная і своеасаблівая кніжка...)

Скажу як на духу, я адкрываў прынесены В.Гардзеем рукапіс, ужо пакрыты і прапахлы незямным пылам, з такім душэўным трымценнем, з якім не перагортваў і першай сваёй уласнай кніжыцы... Я спадзяваўся *адкрыць* і *знайсці* там яшчэ жывое *сэрца* Паэта. А знайшоў — *сваё*...

Пачытайце ўважліва, шаноўныя чытачы, гэтыя вершы (а хто зацікавіцца паэзіяй Васіля Гадулькі, то можа падождаць сваё захапленне ў № 8 часопіса "Полымя" за гэты год), магчыма, вы таксама адкрыеце для сябе яшчэ адно паэтычнае імя, якое павінна быць упісана ў святцы анталагічнай беларускай паэзіі.

А што тычыцца саміх сяброў-паэтаў, Васілёў-цёзкаў — Гадулькі і Сахарчука, то так і ішлі яны — цугам, адзін за адным, старэйшы за малодшым, усю апошнюю частку свайго жыццёвага шляху, нібы тыя астрожнікі па этапу, скаваныя непарыўным ланцугом зямнога выраку. Адзін сканаў ад *кахання*, другі — ад *любові*, нарэшце здабыўшы такую прыцягальную і поўную гармонію з Прыродай. Цяпер — яны там, а мы тут — ПАРАЗУМЕЛІСЯ. Чаго ж яшчэ?..

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

---



**Васіль ГАДУЛЬКА**

•

*Люба мне, калі ў прыціхлым садзе*
*ў кронах дрэў не згас яшчэ агонь.*
*Ліст пажоўклы прыляціць і сядзе*
*матыльком на золкую далонь.*

*Ветрык з ім свае спыняе гульні...*
*Ці не для таго, каб нагадаць:*
*Усяго жывога лёс агульны —*
*пакрысе мярцвець і ападаць?*

*Непаўторны для зямной істоты,*
*час цвіцення — лічаныя дні,*
*і пад гоман маладой лістоты*
*леташняй не ўспомняць карані.*

*І, хоць кажуць, што цвітуць увесну*
*нават карчаваных дрэў камлі —*
*я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну:*
*кожны з нас апошні на зямлі.*
*І хоць вецер гне сухое вецце,*
*і хоць іней срэбрам лёг на скронь —*
*нельга мне, шкада, змахнуць,*
*як смецце,*
*ліст, які сагрэў маю далонь.*

## З «НАЧНОГА ТРЫПЦІХА»

*Нечакана*
*праз фіранку*
*асляпляльны бляск маланкі*
*ўспыхнуў і раптоўна згас.*
*І праз некалькі імгненняў*
*зноў сатканай з чорных ценяў*
*коўдрай змрок ахутаў нас.*

*Зноў на сэрца цемра ўпала.*
*Ноч яшчэ цямнейшай стала.*
*Як яе перачакаць?*
*Цемра — зверху, цемра — збоку...*
*Крыўдна: зроку зноў да змроку*
*давядзецца прывыкаць.*

*Але ж дзіўны бляск прарочы*
*нездарма сляпіў нам вочы:*
*з ім праз ноч ісці лягчэй.*
*Нездарма ў чаканні ранку*
*моўчкі кожны з нас маланку*
*прыхаваў на дне вачэй.*

## РАКА

А.У.Р.

*Даруй, што не ў тваёй мая рука:*
*паміж табой і мной цячэ рака,*
*якую мы ніколі не пяройдзем —*
*у ёй, бяздоннай,*
*броду мы не знойдзем.*

*Дарэмна спрабавалі я і ты*
*над ёй навесці штучныя масты.*
*Рака два сэрцы без мастоў злучыла,*
*плячо ў плячо нас крочыць навучыла.*

*Ні ўзрост, ні лёс вандроўны, ні гады*
*не могуць замуціць у ёй вады.*
*Цячэ яна, раскручваецца стужкай.*
*Над ёй любоў лунае*
*вольнай птушкай...*

*Шырэй становіцца, цячэ шпарчэй, —*
*і знікне ўрэшце бераг твой з вачэй.*
*Рака ў бяскрайнае ўвальецца мора.*
*Раку марская праглыне прастора.*

*І назаўжды разлучыць далячынь*
*два берагі адной ракі — дзве долі.*
*І кане ў вечнасць*
*нашых жыццяў плынь.*
*І болей мы не ўбачымся ніколі.*

•

*Не выдумляй, што для цябе*
*я не памру —*
*што ў сэрцы буду жыць*
*тваім бясконца:*
*жывы ў жыцця бясхмарную пару*
*пагляд свой цягне ўверх —*
*туды, дзе сонца,*
*а не туды, дзе бездань цемры, дзе*
*ляжаць я буду ў цеснай дамавіне.*
*Але ў вялікім смутку ці ў бядзе,*
*калі апошні друг цябе пакіне;*
*калі адчай жыцця нам голаў долу гне*
*і цісне ўніз нясцерпных*
*крыўд навала —*
*успомніш ты аднойчы пра мяне,*
*якога ты сама не ўратавала...*

## 30 ВЕРАСНЯ 1990 ГОДА

*Сорак дзён і начэй*
*не заплюшчыў вачэй,*
*а ў бяссонных тваіх —*
*і не згледзеў,*
*як патухла святло...*
*Крыўдна бачыць было*
*абыякавасць родных,*
*суседзяў.*

*Ты хварэла даўно,*
*і ў той дзень я адно*
*толькі чуў: "Дзякуй Богу!*
*Нарэшце!"*
*Насклікалі кабет.*
*Гатавалі абед.*
*А труну*
*не было каму несці.*

*Пахавалі аднак.*
*І хоць сын твой — жабрак,*
*вер: ён матчыных слоў*
*не забудзе.*
*І згадае не раз,*
*што самога ў свой час*
*пахаваць нават*
*некаму будзе.*

*Бог не ўсім пры жыцці*
*даў праз пекла прайсці,*
*як табе,*
*і памерці — прыстойна.*
*Цяжкі несла ты крыж*
*і пад крыжам ляжыш —*
*спіш цяпер вечным сном...*
*Спі спакойна.*

## НА МАГІЛЕ МАЦІ

*Ты чуеш, маці?*
*Сын з табой гаворыць.*
*На хвалях дзён я наўздагад плыву.*
*Абрыдла ў цемры жыць,*
*аднак, жыву:*
*свет мне яшчэ не толькі*
*церні дорыць.*

*Калі душу ў блуканнях*
*стома зморыць,*
*прыйду, каб ніцма ўпасці на траву,*
*або схілю ў жалобе галаву*
*і рэха скаргу — сэрца ўздых —*
*паўторыць.*

*О, калі б ты магла ў хвіліну гэту*
*пасланнем суцяшэнне*
*з таго свету —*
*адбыўся б усявышняй воляй цуд:*

*лёс адмяніў бы жорсткі свой прысуд,*
*і я ў жыцці зноў змог бы*
*ўбачыць мэту*
*і патаемны сэнс зямных пакут.*

## САМАГУБЦЫ

*У процiборстве сіл дабра і зла*
*тупы інстынкт цярплівасці*
*жывёльнай*
*не спрацаваў — душа перамагла*
*і суджана ёй жыць,*
*як птушцы, вольнай.*

*Адрынула бязлітасны дыктат.*
*Ляціць і не баіцца Боскай кары:*
*хай жорсткі лёс, яе адвечны кат*
*шкадуе аб упушчаней ахвяры!..*

*Уцеклых не ў выратавальны сон,*
*а ў Вечнасць, у якой свае законы,*
*іх возьме Ноч пад зорны парасон*
*і зберажэ ад глуму іх імёны.*

Падрыхтаваў Л.Г.

## АФІША ВЕРАСНЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета РБ**
**пл. Парыжскай Камуны, 1,**
**тэл. 234-06-66**

**19** — А. Мдзівані "Страсці" ("Рагнеда").
**23, 24** — С. Пракоф'еў "Рамэо і Джульета".
**26** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык".
**28** — А. Хачатуран "Спартак".
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1,**
**тэл. 234-10-41**

**20** — Д. Вердзі "Баль-маскарад".
**21 (раніца)** — Дзіцячы музычны тэатр-студыя, А. Будзько "Пітэр Пэн".
**21 (вечар)** — Д. Пучыні "Багема".
**25** — П. Чайкоўскі "Іяланта".
**27** — Д. Вердзі "Трубадур".
**28 (раніца)** — Дзіцячы музычны тэатр-студыя, Ц. Кюі "Кот у ботах".
**30** — А. Барадзін "Князь Ігар".
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**19** — А. Курэйчык "Згублены рай", драма.
**20** — Ф. Дзюрэнмат "Ромул Вялікі", гістарычна недакладная камедыя.
**21** — К. Гальдоні "К'еджаўскія перабрэхі"
**22** — А. Дзялендзік "Смак яблыка"
**25** — У. Шэкспір "Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета", казачная феерыя
**26** — А. Астроўскі "Свае людзі — паладзім", трагікамічныя сцэны з жыцця глухамані
**27** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя
**28** — Далецкія, М. Чарот "Ажаніцца — не журыцца", беларускія вадэвілі
**29** — Р. Горын "Памінальная малітва"

**Малая сцэна**

**25** — М. Сайман "Я не пакіну цябе...", трагікамедыя
**28** — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях", монаспектакль
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44,**
**тэл. 234-60-08**

**19** — Канцэрт-спектакль (з нагоды 10-годдзя тэатра).
**20** — Я. Купала "Адвечная песня", опера-фольк.
**21** — М. Сагалаў "Палёты з анёлам".
**23** — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання.
**24** — М. Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана".
**25** — А. Шчуцкі "Каласнікі".
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Тэатр студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава, 13,**
**тэл. 223-08-11**

**19** — Э. дэ Філіпа "Філумена Мартурана".
**20, 21** — Л. Вернейль "Выкраданне Алены", французскі ад'юльтэр.
**23, 24** — Б. Шоу "Пігмаліён", музычная камедыя
**25** — Е. Міровіч "Тэатр купца Япішкіна", сатыра
**26** — Д. Кілці "Мілы хлус"
**27,28** — А. Данілаў "Мы ідзём глядзець "Чапаева", трагіфарс
**30** — "Айседора. Танец кахання", лірычная драма
Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне.

**Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч"**
**пл. Незалежнасці, 15**
**(у касцёле св. Сымона і св. Алены),**
**тэл. 220-56-32**

**22 (раніца)** — С. Кавалёў "Маленькі анёлак", монаспектакль паводле вершаў Кармэн Барнос дэ Гаштольд (выканаўца — Р. Астрадзінава)
**22 (а 19-й гадзіне)** — У. Караткевіч "Нобіль — барвяны ўладар", монаспектакль паводле аповесці "Сівая легенда" (выканаўца — з.а. Беларусі У. Шэлестаў)
**23 (а 19-й гадзіне)** — Н. Раппа "Выгнанне ў рай", монаспектакль (выканаўца — Г. Дзягілева)
**25 (а 19-й гадзіне)** — "Віленскія мроі", монаспектакль паводле ўспамінаў Ю. Вітан-Дубейкаўскай і вершаў Н. Арсенневай (выканаўца — Г. Дзягілева)

**Тэатр юнага гледача**

**22 (а 14-й гадзіне)** — В. Гауф "Петэр Мунк і яго каменнае сэрца"
**23 (а 14-й гадзіне)** — С. Кавалёў "Дарога на Віфлеем"
**25 (а 14-й гадзіне)** — С. Казлоў "Парася, якое спявае"
**26 (а 11-й, 14-й гадзіне)** — Я. Шварц "Папялушка"

**Эксперыментальная сцэна**

**19 (а 19-й гадзіне)** — А. Еранькоў "Гісторыя кахання Паласатага Ката і сеньярыты Ластаўкі"
**22,23 ( а 19-й гадзіне)** — М. Лявончык, Н. Башава "Апошняя дуэль"
**27 (а 11-й, 14-й гадзіне)** — С. Навуменка "Залатое сэрцайка"

## ПАМЯЦЬ

# ВОСЕНЬ ПАЧАЛАСЯ БЕЗ ЯЕ



Зорка згасла раптоўна. У планах на чарговы філарманічны сезон былі яе новыя сольныя праекты, але... Але мінула ўжо сорак з лішкам дзён, як спыніўся яе зямны шлях.

Святлана Данілюк, народная артыстка СССР, 20 гадоў была салісткай Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі. А з 1986 г. пачала працаваць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Яе багаты тэатральны рэпертуар (Алеся ў аднайменнай оперы Я. Цікоцкага, Марына Мнішак у "Барысе Гадунове" М. Мусаргскага, Артруда ў "Лаэнгрыне" Р. Вагнера, Сантуцца ў "Сялянскім гонары" П. Масканы, Эбалі ў "Доне Карласе" Д. Вердзі ды інш.) дапоўнілі яркія камерныя праграмы.

Выканальніцкае майстэрства Святланы Данілюк, непаўторны тэмбр яе мецца-сапрана цанілі, любілі і ў Кіеве, на радзіме спявачкі, і ў Пермі, дзе яна паспяхова працавала да пераезду ў Мінск, і ў гарадах Балгарыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Італіі, Канады, Кубы, Польшчы, Францыі, іншых краін, дзе ёй даводзілася выступаць.

Кармэн, увасобленая Святланай Данілюк у аднайменнай оперы Ж. Бізэ, — гэта ўжо класіка беларускага вакальна-сцэнічнага мастацтва. Заваблівa-прыгожы, чароўны голас. Уражлівы яскравы вобраз, які злучыў у сабе вялікую магію, вялікую загадку, вялікую моц і вялікую трагедыю таго дару, што завецца каханнем. Незабыўная Кармэн. Незабыўная Артыстка. Асоба.

С. БЕРАСЦЕНЬ

ФОТА А. КАЛЯДЫ

## КІНО

***З 18 па 21 верасня ў Мінску праходзяць кінапаказы ў рамках "Кінафармату 4х4", якія прадстаўляе аматарам кіно найноўшыя стужкі, уганараваныя на міжнародных кінафестывалях. У цяперашняй "чацвёрцы" фільмаў асабліва хочацца вылучыць кінакарціну славутага японскага рэжысёра Такешы Кітано "Лялькі". Зусім нядаўна гэты рэжысёр праігнараваў цырымонію ўручэння ўзнагарод Венецыянскага кінафестывалю, на якім славутага кінамайстра абышоў рэжысёр-дэбютант з Расіі. Калі А. Звягінцаў за стужку "Вяртанне" атрымаў "Залатога льва", то Т. Кітано — толькі "Срэбранага"...***



**18 верасня**

"ЛЯЛЬКІ"(Японія) — кінатэатр "Бярэсце"
"НЕПАРАЖАЛЬНЫЯ" (Іспанія) — кінатэатр "Аўрора"
"ДОМ 1000 МЕРЦВЯКОЎ" (ЗША) — кінатэатр "Мір"
"МОРА" (Ісландыя) — кінатэатр "Перамога"

**19 верасня**

"ЛЯЛЬКІ"(Японія) — кінатэатр "Аўрора"
"НЕПАРАЖАЛЬНЫЯ" (Іспанія) — кінатэатр "Перамога"
"ДОМ 1000 МЕРЦВЯКОЎ" (ЗША) — кінатэатр "Бярэсце"
"МОРА" (Ісландыя) — кінатэатр "Мір"

**20 верасня**

"ЛЯЛЬКІ"(Японія) — кінатэатр "Перамога"
"НЕПАРАЖАЛЬНЫЯ" (Іспанія) — кінатэатр "Мір"
"ДОМ 1000 МЕРЦВЯКОЎ" (ЗША) — кінатэатр "Аўрора"
"МОРА" (Ісландыя) — кінатэатр "Бярэсце"

**21 верасня**

"ЛЯЛЬКІ"(Японія) — кінатэатр "Мір"
"НЕПАРАЖАЛЬНЫЯ" (Іспанія) — кінатэатр "Бярэсце"
"ДОМ 1000 МЕРЦВЯКОЎ" (ЗША) — кінатэатр "Перамога"
"МОРА" (Ісландыя) — кінатэатр "Аўрора"

*НА ЗДЫМКУ: японскі кінарэжысёр ТАКЕШЫ КІТАНО*

## У СТАЛІЦЫ



**Зала камернай музыкі**
**пр. Ф.Скарыны, 44а**
**тэл. 284-44-33, 284-47-09**



**22** — Грае дуэт: скрыпач Міхаіл Казінік (Швецыя) і піяністка Зоя Качарская (Беларусь). Творы Моцарта, Шуберта, Шумана, Брамса.

**23** — "Апафеоз паланеза" — праграма Ансамбля салістаў "Класік-Авангард". Мастацкі кіраўнік Уладзімір Байдаў.

**25** — "Госціца", ансамбль Белтэлерадыёкампаніі. Мастацкі кіраўнік Ларыса Сімаковіч.

**26** — Арганная музыка ў выкананні навучэнцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Клас Наталлі Выграненкі.

*НА ЗДЫМКУ: ансамбль "Госціца".*





Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**
**Аддзелы:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1557
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 17.09.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае *пасведчанне № 715*

Заказ 3547

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12